# Змагацца за 20 тыс. падпісчыкаў на часопіс „Паляўнічы Беларусі“ ў 1933 г.

## ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Надаючы вялікую ролю часопісі „Паляўнічы Беларусі“, якую ён прызван адыгрываць у арганізацыі мас на будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, выкананьне плянаў усіх відаў загатовак і чарговых гаспадарча-палітычных задач, якія пастаўлены перад паляўнічай гаспадаркай партыяй і ўрадам, а таксама ў разгортваньні палітычна-выхаваўчай работы сярод паляўнічых, барацьбе супроць кляса-варожых элемэнтаў і арганізацыі шырокіх колаў паляўнічых на барацьбу за генэральную лінію партыі — цэнтральнае праўленьне Белкахотсаюзу лічыць неабходным:

1. У 1933 годзе давесьці тыраж часопісі **„Паляўнічы Беларусі“ да 20 тыс. экз.** з такім разьлікам, каб падпіскай на часопісь ахапіць ня менш 80—90 проц. членаў нашай каапэрацыі. Кожны паляўнічы павінен выпісваць, чытаць і распаўсюджваць сваю часопісь „П. Б.“. Усё ўзрастаючы культурны ўзровень працоўных мас паляўнічых дае магчымасьць цалкам выканаць гэты лёзунг.

2. Для пасьпяховага правядзеньня падпіскі Белкахотсаюз і рэдакцыя часопісі „Паляўнічы Беларусі“ прапануе **пад асабістую адказнасьць адказных працаўнікоў райтаварыстваў** абгаварыць пытаньне аб распаўсюджаньні часопісі і ўдзелу ў яго стварэньні шырокіх працоўных мас на агульных сходах паляўнічых, на нарадах брыгад і г. д. Разам з гэтым шырока разгарнуць праз сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж брыгадамі, асобнымі паляўнічымі і райтаварыствамі найлепшую пастаноўку масавай работы, дабіцца ўзьняцьця шырокай масавай работы па падпісцы.

3. З мэтай заахвочваньня найлепш наладзіць масавую работу з падпіскай на часопісь, **ЦП абвяшчае паміж райтаварыствамі, брыгадамі і асобнымі паляўнічымі конкурс на лепшых зборшчыкаў падпіскі** (пры Белкахотсаюзе створан прэміяльны фонд у колькасьці **100 прэмій**, тэрмін конкурса з 15 сьнежня па 1-е лютага 1933 г). Лепшымі будуць лічыцца тыя таварыствы, брыгады і паляўнічыя, якія правядуць больш шырокую масавую работу і даб'юцца ня менш 80—90 проц. падпіскі сярод членаў нашай каапэрацыі.

4. Белкахотсаюз прапануе ўсім райтаварыствам вылучыць з складу праўленьня адказную асобу за падпіску па раёне, а з складу брыгады—адказных у маштабе брыгады. Прозьвішчы раённых і брыгадных упаўнаважаных даслаць у ЦП не пазьней 20-XII г. г.

5. Зьвесткі аб праведзенай масавай рабоце райтаварыствам, асобнымі брыгадамі і паляўнічымі, а таксама аб колькасьці завербаваных падпісчыкаў даслаць **у конкурсную камісію пры ЦП не пазьней 10 студзеня 1933 г.**

6. Адначасова ЦП прапануе райтаварыствам і брыгадам стварыць грамадзкі кантроль за сваячасовай дастаўкай лістаносцамі часопісі падпісчыкам. У выпадку выяўленьня фактаў недастаўкі — тэрмінова паведамляць у рэдакцыю „П. Б.“.

**Увага.** Усе сабраныя грошы па падпісцы і сьпіс падпісчыкаў здаваць мясцоваму паштоваму аддзяленьню.

Старшыня Белкахотсаюзу **Волдынь.**

Адказны рэдактар часопісі „Паляўнічы Беларусі“ **Вільдфлуш.**

## ПАМЯТКА ПАЛЯЎНІЧЫМ

### па зьёмцы, праўцы і сушцы наступных відаў пушніны: вавёркі, гарнастая, ласкі, зайца-беляка і зайца-русака

#### 1. Здымай скуру ў дзень здабычы

Пры здабычы вышэйпаказаных відаў зьвяроў скуру неабходна здымаць у дзень здабычы.

#### 2. Здымай скуру не з галавы, а з агузка

Скуру трэба здымаць не з галавы, а з **агузка**, г. зн. зрабіць роўны разрэз вострым нажом паміж задніх лапак, ачысьціць заднія лапкі і хвост ад касьцей і асьцярожна зьдзіраць скуру так, каб ня было падрэзаў і разрываў.

#### 3. Ачышчай скуру

Волас і мяздра павінны быць ачышчаны ад крыві і грязі.

#### 4. Здымай скуру „трубкай“

Скура павінна быць зьнята трубкай, г. зн. цалкам з лапкамі, хвастом і галавою.

#### 5. Выпраўляй скуру мяздрой наверх

Зьнятую скуру неабходна нацягнуць на адпаведную правілку, абавязкова **мяздрой наверх**; разгладзіць мяздру так, каб не засталося зморшчак.

Правілкі павінны быць тонкія, лепш за ўсё з фанэры і адпавядаць наступным велічыням у шырыню.

| | У галоўцы | У агузку |
|---|---|---|
| Для вавёркі . . . | 4 см | 7 см |
| „ гарнастая . . | 3 „ | 6 „ |
| „ зайца . . . . | 6 „ | 28 „ |

Даўжыня правілкі робіцца ў залежнасьці ад даўжыні выпраўляемай скуры.

#### 6. Добра высушвай скуру

Сушыць скуру трэба пры хатняй тэмпэратуры, каб мяздра ня была перасушана і мела свой сапраўдны выгляд.

Каб атрымаць поўную каштоўнасьць скуры, неабходна прытрымлівацца гэтай памяткі. Усялякія адхіленьні ад яе прыносяць вялікія страты, як паляўнічаму, так і дзяржаве.

Паляўнічы! Выконвай гэтыя ўмовы! Выканаўшы іх, ты забясьпечыш высокую якасьць скуры і атрымаеш поўную яе каштоўнасьць.



ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІС

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.

г. МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 68.

ШОСТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ



## ЗЬМЕСТ



№ 12

СЬНЕЖАНЬ

1932 г.

Здана ў набор 16-XII—1932 г.
Падпісана да друку 24-XII.
Набірала брыгада т. Нячаева.
Вышла з друку 28-XII—1932 г.

# Бальшавіцкай упартасьцю змыць пляму прарыву ў пушна-мехзагатоўках

Пралетарыят Савецкага Саюзу і яго неадлучная частка БССР за мінулы час правялі ўпартую барацьбу за ўтрыманьне і замацаваньне ўлады, за аднаўленьне растрэсенай вайною гаспадаркі, за разгорнутую сацыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі.

Усе гэтыя гады капіталістычны сьвет не пераставаў атакоўваць краіну пралетарскай дыктатуры. Інтэрвэнцыя, эканамічная блёкада, арганізацыя шкодніцтва—вось тыя формы і мэтады барацьбы, якія дапасоўвалі імпэрыялісты да нас у разьліку на зрыў сацыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі дыктатуры пралетарыяту.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя намаганьні імпэрыялістаў і неаднаразовыя прадраканьні, СССР гіганцкі вырас і ўзвышаецца несакрушальна ўвысь, прыцягваючы сымпатыі працоўных і прыгнечаных усяго сьвету, выклікаючы нянавісьць, замяшаньне і жах у краіне ворагаў.

У той час, як у краінах капіталізму вось ужо тры гады лютуе з усё нарастаючай сілай эканамічны крызіс, у той час, як цэлыя галіны капіталістычнай гаспадаркі падаюць і прыходзяць да поўнага развалу, — СССР нябачнымі ў гісторыі чалавецтва тэмпамі ідзе ўперад ва ўсіх галінах свайго будаўніцтва, паказальна дэманструючы перавагі сацыялістычнай сыстэмы гаспадаркі.

Згрупаваўшы ў сваіх руках усе вагары дзяржаўнай улады, пралетарыят СССР здолеў ператварыць эканамічна і тэхнічна адсталую былую аграрную Расію ў краіну гігантаў мэталюргіі, машынабудаўніцтва, энэргетыкі, хэміі, у краіну буйнейшай у сьвеце мэханізаванай сацыялістычнай гаспадаркі.

Грандыёзныя посьпехі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі прывялі да канчатковага вырашэньня збожжавай праблемы і да забесьпячэньня лёгкай прамысловасьці, у асноўным, уласнай сельскагаспадарчай сыравінай. На чаргу пастаўлена вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі, якая пашла па шляху стварэньня буйнай абагуленай гаспадаркі. На сёнешні дзень мы маем ужо абсалютную перавагу сацыялістычнага сэктару ў народнай гаспадарцы. Твар нашай народнай гаспадаркі за апошні час рэзка зьмяніўся і асабліва ў сельскагаспадарчым сэктары. Цэнтральнай фігурай на вёсцы стаў калгасьнік, асноўным рашаючым эканамічным фактарам—калгас пры непасрэдным арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні яго. Гэта зусім новая абстаноўка, якая характарызуе наша ўступленьне ў пэрыяд сацыялізму, патрабуе, у сваю чаргу, і новых форм арганізацыі сельскагаспадарчых рынкаў, калгасных базараў, у тым ліку і пушна-мехавых, і новых мэтадаў загатоўчай работы. Зараз нельга ўяўляць сабе пасьпяховае правядзеньне якой-бы там ня было сельскагаспадарчай кампаніі без уцягненьня ў гэту справу калгасаў, без належнай падрыхтоўкі да гэтай кампаніі сацыялістычнага сэктару. Толькі павярнуўшыся тварам да калгасу загатавіцель здолее вабясьпечыць выкананьне прынятага на сябе плянавага заданьня.

Уцягненьне ўсёй калгаснай сыстэмы ў справу загатовак пушна-мехавой сыравіны магчыма толькі пры ўмове прывядзеньня апарату пушна-мехавых загатавіцеляў у суадпаведнасьць з новымі ўмовамі сельскагаспадарчага рынку, калі работнікі гэтых апаратаў цьвёрда ўсьвядомяць сабе, што з самацёкам раз і назаўсёды скончана, калі яны зразумеюць, што ўзаемаадносіны нават з прамыслоўцам-аднаасобнікам бедняком і серадняком, якія пакуль што яшчэ па-за калгасам, таксама павінны будавацца на іншых асновах, асновах, якія забясьпечваюць арганізаванае вядзеньне паляўнічага промыслу.

Першыя тры кварталы і чацьвёрты квартал*) 1932 году паказваюць, што недаўлік новых ускладненых умоў работы, адрыў ад калгаса і калгасьніка, недастатковае рэагаваньне на зрыўшчыкаў контрактацыйных дагавораў—прывялі загатоўчую праграму да правалу.

Так, па сыстэме Белкахотсаюзу плян па пушніне за адзінаццаць месяцаў выканан на 70 проц., па мехсыравіне на 61,1 проц. (проценты ўзяты ў адносіне гадавога пляну па зьвестках Белкахотсаюза).

Ці могуць гэтыя лічбы задаволіць нас? Не. Ні ў якім разе. Мы ўступаем у першы квартал 1933 году з вялікім прарывам. Вопыт мінулых загатоўчых сэзонаў неабходна поўнасьцю ўлічыць, каб не паўтараць памылак, і ўся загатоўчая кампанія, у прыватнасьці, першы квартал 1933 году павінны будавацца на базе цеснай увязкі загатоўчых арганізацый з калгасам і калгасьнікам, на базе сталага сыстэматычнага арганізуючага і загатоўчага ўдзелу ў савецкіх і калгасных базарах, уняраючы ў працу сацыялістычныя мэтады работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Толькі пры гэтых умовах мы зможам падцягнуць паляўнічыя арганізацыі да тэмпаў сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй нашай народнай гаспадаркі і гарантаваць поўнае выкананьне першага кварталу 1933 году і ліквідацыі хвастоў 4-га кварталу 1932 году.

Паляўнічая кааперацыя, як асноўны загатоўшчык пушна-мехсыравіны і дзічы, грае вялікую ролю ў справе поўнага і сваячасовага выкананьня загатоўчых плянаў. Яе роля ў народнай гаспадарцы вызначаецца значэньнем прадукцыі паляўнічага промыслу (пушніна, мехсыравіна, дзіч і г. д.), якая ідзе на экспарт і якая служыць аднэй з важнейшых крыніц папаўненьня спажывецкіх і сыравінных рэсурсаў нашай краіне.

Усе кааперацыйныя арганізацыі, усе члены паляўнічай кааперацыі павінны памятаць, што партыя і ўрад Саюзу саветаў, разглядаючы загатоўкі пушна-мехсыравіны і дзічы, як састаўную частку прамыслова-вытворчай дзейнасьці паляўнічай кааперацыі, судзяць аб якасьці яе работы па ступені выкананьня загатоўчых плянаў.

Але ня ўсе райтаварыствы паляўнічых і аддзяленьні Белпушніны і іншыя загатоўчыя арганізацыі ўразумелі важнасьць выкананьня і перавыкананьня загатоўчых плянаў 1932 году. Паказаныя проценты выкананьня пушна-мехсыравіны сьведчаць аб тым, што шмат якія раённыя кааперацыйныя арганізацыі па апартуністычнаму адносяцца да выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў, недаацэньваюць важнасьці выкананьня плянаў загатоўкі. І нізавыя, і цэнтральныя зьвеньні сыстэмы яшчэ не змагаюцца па-бальшавіцку за выкананьне загатоўкі пушна-мехсыравіны.

Нічым іншым, як стаўкай на самацёк, апартунізмам на практыцы нельга растлумачыць такога становішча, якое склалася на сёнешні дзень у некаторых раёнах. Інакш і нельга разглядаць працу за III квартал Парыцкага (2,8 проц.), Уваравіцкага (7 проц.) і Узьдзенскага (1,2 проц.) райтаварыстваў, як ня стаўкай на самацёк, апартунізмам на практыцы. Поруч з ганебна-адстаючымі райтаварыствамі ёсьць і такія, якія чуць-чуць памаленьку, кульгаючы ідуць ад 10 проц. вышэй, як: Бягомельскае, Смалявіцкае, Камарынскае, Лельчыцкае, Цераховскае, Заслаўскае, Тураўскае і Кармянскае. І вельмі малая колькасьць райтаварыстваў ідучых наперадзе: Аршанскае—выканала гадавы плян у 3-м квартале, 3-ці квартал на 201,6 проц. і за 5 дэкад 4-га кварталу выканала на 117 проц. усяго квартальнага пляну; Шклоўскае — гадавы плян выканала ў 3-м квартале, 3-ці квартал на 288,9 проц., а ў чацьвёртым квартале, гледзячы па першых 5 дэкадах, квартальны плян выканан толькі на 25 проц.

Чым растлумачыць зусім нездавальняючае і шурпатае выкананьне пляну, у чым прычыны такога ганебнага прарыву і ці можна растлумачыць недавыкананьне павялічанымі плянавымі заданьнямі? Вядома, не. Бо некаторыя раёны ідуць з перавыкананьнем гадавога пляну, значыць, для загатоўшчыкаў гэтых раёнаў пляны ня былі павялічаны. І сыравіны аказалася ў дастатковай колькасьці, каб выканаць і перавыканаць пляны. Недавыкананьне тлумачыцца дзялячаскім падыходам да загатовак, абломаўскімі тэмпамі работы і спасылкай на аб'ектыўныя прычыны.

Нельга абыйсьці моўчкі і такога становішча, якое ахарактарызавана ў артыкуле „Агульная хвароба"—П. Б.", № 10—11, што быццам Магілеўскае райтаварыства ня выконвае сваіх заданьняў з прычыны адсутнасьці дзічы на тэрыторыі раёну. „Гэта бацька захаваў свайго сынка ад агульнай хваробы" невыкананьня загатовак па ўсіх відах. Што-ж, таварышы паляўнічыя з Магілеўшчыны, моў, сядзеце і чакайце, пакуль аўтар „Агульнай хваробы" падгоніць да вас дзічы з другіх раёнаў, напрыклад, з Аршаншчыны. Такое спасыланьне на „агульную хваробу" толькі размагнічвае райтаварыствы паляўнічых, патурае апартуністычнай дзейнасьці загатоўчых арганізацый.

Няма ніякага сумненьня ў тым, што прычыны хаваюцца ўнутры саміх арганізацый і што ўсімі магчымасьцямі без „агульных хвароб" для 100 пр. выкананьня пляну, райтаварыствы валодалі на працягу ўсіх 4-х кварталаў.

На самай справе, чым як ня стаўкай на самацёк, адсутнасьцю барацьбы за плян, за канкрэтнае кіраўніцтва загатоўкамі—можна тлумачыць зрыў загатоўчага пляну па большай колькасьці раёнаў. Гэтыя раёны аказаліся ў палоне клясавага ворага, заблытаныя ў павуціньне спэкулянта-перакупшчыка, які на кожным кроку імкнецца сарваць нашы плянавыя заданьні.

Вось з якімі паказчыкамі мы падышлі да другой пяцігодкі і першага кварталу 1933 году, першага году другой пяцігодкі. І гэта ў той час, калі ў асноўным прадпрыемствы і арганізацыі Беларусі ішлі ў ногу з лёзунгам—„да пачатку І-га кварталу, 1-га году другой пяцігодкі не павінна застацца ніводнага прадпрыемства, якое-б ня выканала свайго прамфінпляну"—цэлы шраг раёнаў аказалася ў самым задзе па выкананьні сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай. Нават маючуюся пушна-мехсыравіну па радзе раёнаў не змаглі выкарыстаць. Нікому ні сакрэт, што ў сувязі з часовай зацяжкай бояпрылад і прамтавараў у некаторых раёнах, паляўнічыя захоўваюць пушна-мехсыравіну. Дрэнна пастаўленая работа гэтых райтаварыстваў паляўнічых (тэлеграфуюць—Чачэрскае і іншыя райтаварыствы: „ня вышлеце бояпрылад—спыняем загатоўкі.—Ого!") па арганізацыі загатовак і выкачцы здабытай сыравіны—прывяла іх да ганебнага слупа. У гэтым кірунку апартунізм суправажае работу

*) За 4-ы квартал ёсьць зьвесткі толькі за кастрычнік і 2 дэкады лістапада. *Рэд.*

усіх зьвеньняў загатоўчых сыстэм і тут мы трацім значную колькасьць валюты.

Зараз, пры перабудове структуры паляўнічай каапэрацыі і перарэгістрацыі членаў саюзу паляўнічых, мы павінны пазбавіцца ад кіраўнікоў з „агульнымі хваробамі" і „аб'ектыўнымі прычынамі" і ад паляўнічых, што трымаюць загатоўленую сыравіну і здаюць пасьля спэкулянту.

Перабудова структуры паляўнічай каапэрацыі стымулюе сабою прамысловы і ідэйны рост паляўнічых. Існаваўшая дагэтуль ячэйка ня мела тых магчымасьцяй для сваей работы, якія зараз, у сувязі з рэарган зацыяй яе па тэрытарыяльнаму прынцыпу ў вытворча-прамысловую брыгаду, — набудзе яна.

Поруч з перабудовай структуры паляўнічай каапэрацыі, мяняюцца і спосабы вядзеньня загатоўчай работы. Калі дагэтуль мы вялі загатоўкі выключна па заключаных дагаворах з асобнымі паляўнічымі і без кантролю (праўда, дагаворная кампанія прайшла фармальна, аб гэтым гаворацьпроцанты выкананьня пляну), дык зараз ужо сама брыгада становіць сабою кантроль за ходам выкананьня пляну загатоўкі ўнутры сябе, даводзячы яго да кожнага паляўнічага паасобку. Брыгада павінна быць цалкам загружана для выкананьня плянаў загатовак на першы квартал 1933 году. Яна павінна быць закантрактавана аднэй з загатоўчых арганізацый.

Змазваньне масавай работы пры правядзеньні кантрактацыі, фармальнае яе правядзеньне, якое зводзіцца толькі да імкненьня атрымаць подпіс брыгадзіра ці асобнага паляўнічага (брыгадная структура не пазбаўляе магчымасьці заключэньня індывідуальных дагавароў) пад дагаворам, ажыятаж у самай рабоце па кантрактацыі, павінны разглядацца як апартунізм на практыцы, як прамы зрыў важнейшай часткі работы — па арганізацыі паляваньня, па забесьпячэньні выкананьня экспартнага заданьня і бесьперабойнай работы пушна-мехавых арганізацый.

Для калгаснай сыстэмы кантрактацыйныя дагавары (у тых калгасах, дзе ёсьць паляўнічыя брыгады) зьяўляюцца часткай таго дагавору, якім кожны калгас павінен быць зьвязан з адпаведным загатаўцелем. У гэтым выпадку асобную ролю і значэньне набывае чоткасьць і дзейнасьць у рабоце загатаўцеля, які арганізоўвае паляўніча-прамысловую работу калгасу. Ад ступені яго актыўнасьці, ад ступені выкананьня падаючых на яго па дагавору абавязкаў, ад ступені і кваліфікацыі абслугоўваньня—будзе залежаць работа калгаснай сыстэмы па пушна-мехавых загатоўках, будзе залежыць выкананьне калгасамі поўнасьцю ўзятых на сябе абавязкаў. Таму, кожная загатоўчая брыгада павінна знаходзіцца пад неаслабным наглядам рэгулюючых органаў (Белкахотсаюз павінен асабліва зьвярнуць увагу на гэты бок работы), яе работа павінна строга кантралявацца.

Зусім зразумела, што такая форма работы патрабуе, каб у кожным калгасе (калгасная брыгада) працаваў адзін загатаўцель. У супрацiўным выпадку значна паслабляецца адказнасьць, шмат чаго пазьбягае кантроля, і наогул ня можа быць тэй чоткасьці ва ўзаемаадносінах і рабоце, якая ў канчатковым выніку вызначае да пэўнай ступені ход загатоўкі.

Пры ўсім гэтым неабходна ўвязаць кампанію па заключэньні кантрактацыйных дагавораў з кампаніяй па барацьбе з асяданьнем пушна-мехсыравіны. Гэты год паказаў, што ў гэтай адносіне справа на загатоўчым фронце ня зусім добрая. Неабходна шырокая растлумачальная работа. Трэба перакапаць калгасныя масы, беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў, яшчэ ня ўцягнутых у калгасны рух, у неабходнасьці здачы дзяржаве ўсёй пушна-мехавой сыравіны, праз якую здабываюць машыны і інш. для індустрыялізацыі нашай краіны. Акрамя гэтага трэба перацяць тыя крыніцы, праз якія ідзе ўцечка пушна-мехсыравіны—спэкулянтаў і перакупшчыкаў.

Разам з рэарганізацыяй структуры паляўнічай каапэрацыі праходзіць і перарэгістрацыя членаў саюзу паляўнічых. Яшчэ раз трэба цьвёрда запамятаць і раз назаўсёды, што чуждым і клясававарожым элемэнтам не павінна быць месца сярод паляўнічых-калгасьнікаў, беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў. Гэта дасьць магчымасьць пазбавіцца ад ганебных зьявішч, якія мелі месца ў мінулым, як уцечка і асяданьне пушна-мехсыравіны.

Неабходна застанавіцца яшчэ на адным вельмі істотным момантце. Пытаньне ўдзелу ў савецкіх і калгасных базарах займае першае месца ў радзе мерапрыемстваў, накіраваных да арганізацыі загатоўчай кампаніі. Адсутнасьць удзелу ў базарах (ён быў, але вельмі слабы) у мінулым вельмі значна сказалася на загатоўчым пляне. Устанаўленьне сталага ўдзелу ў базарах і апэрацыйнага кіраўніцтва ўсёй загатоўчай работай,—чарговыя і найважнейшыя задачы, якія гарантуюць выкананьне дзяржаўнага заданьня.

На першы квартал 1933 г. дзяржаўнае заданьне вызначана па сыстэме Белкахотсаюзу па пушніне ў 94.000 р. і мехсыравіне—40.200 р. На гэтую суму мы павінны загатовіць сыравіны, якая патрэбна пралетарскай дзяржаве для пабудовы сацыял стычнага бясклясавага грамадзтва.

Важнасьць і народна-гаспадарчае значэньне пушна-мехзагатовак павінны ўсьвядоміць усе мясцовыя партыйныя і савецкія органы. Райкомы, райвыканкомы, прафарганізацыі, школы пав нны неадкладна разгарнуць работу па мабілізацыі грамадзкай думкі вакол пушна-мехзагатовак, улічваючы тыя карэнныя зьмены ў формах і мэтадах работы, якія зараз праходзяць па сыстэме паляўнічай каапэрацыі, і дапамагчы ім як належыць.

Плян загатовак для першага кварталу 1933 году хаця і напружаны, але ён зусім рэальны. Перабудова работы сыстэмы павінна быць утворана хутка і безадкладна, што забясьпечыць выкананьне пляну.

Неабходна ўзяць належныя тэмпы, правільна расставіць сілы, мабілізаваць усе людзкія і матар'яльныя рэсурсы, разгарнуць сапраўды бальшавіцкую барацьбу за плян пры актыўным ўдзеле мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый, пры масавым уцягненьні калгасаў і калгасьнікаў у здабычу і загатоўкі, змагаючыся з недаацэнкай у загатоўках пушна-мехсыравіны аднаасобніка—бедняка і серадняка.

**Улічым вурокі загатовак 4-га кварталу 1932 г.! Выканаем першы квартал 1933 году на 100 проц! Разгорнем сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.**

**Паляўнічы! Зорка сачы за ходам выкананьня пляну першага кварталу 1933 году, першага году другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага грамадзтва!**

# РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ ДАХОДАЎ—ВАЖНЕЙШАЯ ЗАДАЧА ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ

**Скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх калгасах да 15 студзеня 1933 г. І правесьці поўны разьлік і выдачу ўсіх належачых калгасьнікам даходаў па працаднёх не пазьней 1 лютага 1933 г.**

## АБ РАЗЬМЕРКАВАНЬНІ ДАХОДАЎ У КАЛГАСАХ ЗА 1932 ГОД

### Пастанова ЦК КП(б)Б

ЦК адзначае буйныя посьпехі, якія дасягнуты калгасамі БССР у 1932 г. Гэта вызначаецца ў тым, што пасеўная плошча калгасаў павялічылася да 60,6 проц.; калгасы поўнасьцю выканалі плян веснавой сяўбы і лепш чым у мінулым годзе правялі ўборку ўраджаю, скараціўшы тэрмін уборкі па асноўных культурах на 15 дзён раней чым у мінулым годзе. Усё гэта значна павысіла даходнасьць калгасьнікаў супроць мінулага году.

Дасягнутыя посьпехі ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў ёсьць вынік бальшавіцкай барацьбы за ажыцьцяўленьне пастаноў ЦК УсеКП(б) аб арганізацыі пастаянных вытворчых брыгад у калгасах, будаўніцтве новых МТС, укараненьні зьдзельшчыны, барацьбе з дробна-буржуазнай ураўнілаўкай, абязьлічкай, рэзультат барацьбы за ажыцьцяўленьне лініі партыі ў галіне калгаснага будаўніцтва.

Адзначаючы станоўчыя вынікі, якія адыграла папярэдняя выдача грашовых натуральных авансаў у сэнсе ўздыму прадукцыйнасьці працы ў калгасах і павышэньні зацікаўленасьці кожнага калгасьніка ў выніках калектыўнай працы, ЦК адначасова адзначае адсутнасьць выстарчальнай увагі з боку большасьці раённых і нізавых партыйных, савецкіх і зямельных калгасных арганізацый, а таксама МТС, да пытаньняў разьмеркаваньня даходаў у калгасах за 1932 год. Яшчэ не ўстаноўлена поўнасьцю папярэдняе складаньне пляну разьмеркаваньня даходаў, дакладны ўлік працы, выяўленьне працы лепшых брыгад і брыгадзіраў, вывучэньне становішча кожнага калгасу, зьнішчэньне ўраўнілаўкі, механічнага падыходу да кіраўніцтва калгасамі і г. д. Гэтым самым партарганізацыі ня ўлічваюць урокаў мінулага году: памылак і скажэньняў лініі партыі, дапушчаных пры разьмеркаваньні даходаў, што мела ў адмоўным сэнсе адбітак па радзе месц і раёнаў на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і ў прыватнасьці зьявілася адной з прычын выхадаў з калгасаў у веснавую пасеўную кампанію і ў часе ўборачнай.

ЦК надае выключна важнае гаспадарчае і палітычнае значаньне разьмеркаваньню даходаў у калгасах за 1932 год, што непасрэдна зьвязана з далейшым арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў, умацаваньнем ролі брыгадзіра і брыгады, як асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці, своечасовым выкананьнем цэнтралізаванага пляну загатовак, разгортваньнем калгаснага гандлю і павышэньнем ураджайнасьці.

ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. У тых калгасах, якія поўнасьцю выканалі ўстаноўлены для іх плян дзяржаўных загатовак і ссыпалі насенныя і фуражныя фонды, безадкладна прыступіць да разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі ўсёй астатняй часткі належачых ім грошай, харчовых і кармовых прадуктаў.

НКЗ і Калгасцэнтру БССР работу па складаньні плянаў канчатковага разьмеркаваньня даходаў у калгасах за 1932 г. разгарнуць так, каб скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх калгасах да 15 студзеня 1933 году і правесьці поўны разьлік і выдачу ўсіх належачых калгасьнікам даходаў па працаднёх не пазьней 1 лютага 1933 г.

Неабходна забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё указаньня ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб тым, што ільнаводчыя і канапляводчыя калгасы пасьля выкананьня пляну збожжазагатовак робяць разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі 70—80 проц. ад агульнага фонду збожжа, якое належыць да разьмеркаваньня.

Астатнія 20—30 проц. фонду павінны быць разьмеркаваны паміж калгасьнікамі пасьля сканчэньня масавай апрацоўкі льну і канапель, з улікам колькасьці працадзён, затрачаных кожным калгасьнікам на пасеў, уборку і апрацоўку гэтых культур.

Галоўнай і цэнтральнай задачай у рабоце калгасаў зьяўляецца барацьба за якасьць працы і таму ЦК прапануе забясьпечыць пры разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў правядзеньне ў жыцьцё ўказаньняў ЦК і СНК аб павышэньні і зьніжэньні ацэнкі працадня або колькасьці працадзён для брыгад і брыгадзіраў у межах ад 10 да 20 проц. у залежнасьці ад якасьці работы.

2. ЦК асабліва падкрэсьлівае, як баявую задачу для ўсіх калгасаў, своечасовае выкананьне пляну загатовак і асабліва засыпку і стварэньне насенных і фуражных фондаў. У кожным калгасе пасьля выкананьня цэнтралізаванага пляну загатовак, не пазьней як праз дэкаду павінны быць створаны насенныя фонды ў разьмеры, якія-б поўнасьцю забясьпечылі насеньнем пасеўныя плошчы 1933 г.

Ускласьці непасрэдную адказнасьць за стварэньне і захаваньне насенных фондаў на старшынь калгасаў.

Даручыць РК КП(б)Б, РВК, райКК і зямельна-калгасным органам да моманту канчатковага разьмеркаваньня даходаў у кожным калгасе праверыць правільнасьць складаньня пляну разьмеркаваньня даходаў і ў прыватнасьці дасканала праверыць ці прыцягнут актыў, ударнікі і брыгадзіры да абгаварэньня пляну разьмеркаваньня даходаў, а таксама ці праведзена абгаварэньне пляну на агульных сходах калгасьнікаў. Забараніць, дзе гэтыя мерапрыемствы не праведзены, прыступаць да разьмеркаваньня даходаў, поўнасьцю выканаўшы дырэктывы

ЦК аб прыцягненьні калгасьнікаў да абгаварэньня пляну разьмеркаваньня даходаў.

3. Абавязаць райкомы, РВК і зямельна-калгасныя органы поўнасьцю ажыцьцявіць дырэктыву аб тым, каб „пры разьмеркаваньні фуражу ўлічваць наяўнасьць жывёлы ў калгасьнікаў з тым, каб калгасьнікі, якія не атрымліваюць фуражу, або атрымліваюць менш фуражу, замест гэтага атрымлівалі іншы від натуральнай прадукцыі, ня выходзячы, аднак, за межы ўстаноўленага ў даным калгасе разьмеру натуральных выдач на працадзень" (З пастановы ЦК УсеКП(б)).

4. Паставіць у цэнтры ўвагі партыйных і зямельна-калгасных арганізацый барацьбу супроць разбазарваньня працадзён у калгасах. Абавязаць РК і зямельна-калгасныя органы дабіцца рашучага скарачэньня адміністрацыйна-кіруючых выдаткаў, скараціўшы іх да 1,5—2 проц.

Устанавіць такі парадак, што грамадзкія работы і гаспадарча-палітычныя кампаніі, як правіла, праводзяцца калгасьнікамі ў парадку грамадзкай нагрузкі без налічэньня працадзён. Зьняць з аплаты за кошт калгасаў усіх асоб, ня маючых непасрэдных адносін да калгаснай вытворчасьці (сельскія выканаўцы, работнікі каапэрацыі, члены сельсаветаў, калі яны не працуюць на калгаснай вытворчасьці, апрача настаўнікаў). Катэгарычна забараніць усім раённым і сельскім, партыйным, савецкім і калгасным арганізацыям утрыманьне за кошт калгасаў службовых асоб гэтых арганізацый, а таксама ўтрыманьне без аплаты калгасам розных упаўнаважаных і камандыраваных).

Пры разьмеркаваньні даходаў павінен быць строга праведзен такі парадак, пры якім адміністрацыйна-кірэўнічы склад калгасаў, незалежна ад колькасьці налічаных яму працадзён, не павінен атрымліваць вышэй тэй колькасьці натуральнай прадукцыі, якую атрымлівае ў сярэднім у даным калгасе калгасьнік пастаяннай брыгады, які добрасумленна выконвае на працягу году ўсе даручаныя яму работы.

Пры разьмеркаваньні даходаў неабходна з тымі гаспадаркамі, якія выйшлі з калгасаў у часе веснавой сяўбы, а таксама ў часе ўборкі,—разьлічвацца за фактычна выпрацаваную колькасьць працадзён.

5. ЦК КП(б)Б абавязвае за лік скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў, перагляду і скарачэньня ўсялякага роду фондаў, зьніжэньня кошту новага будаўніцтва, зьнішчэньня страт пры апрацоўцы ільну, поўнага пераворваньня бульбы і скарыстаньня ўсёй наяўнай вольнай рабочай сілы на работах па вывазцы лесу, дарожным будаўніцтве і іншых работах дабіцца таго, каб калгасьнік атрымаў ва ўсялякім выпадку ня менш таго, што атрымана на рукі калгасьнікамі ў мінулым годзе пры абавязковым, першачарговым і поўным выкананьні пляну дзяржаўных загатовак, ссыпкі насенных фондаў.

6. Адзначаючы вялікую ролю МТС, як арганізатараў і кіраўнікоў калгаснай вытворчасьці, ЦК абавязвае аддзяленьні Трактарацэнтру, асабліва дырэктароў і кіраўнікоў вытворчых вучасткаў МТС— наладзіць пастаянную дапамогу ў калгасах, што імі абслугоўваюцца, па разьмеркаваньні ўраджаю шляхам непасрэднага ўдзелу работнікаў МТС у разьмеркаваньні даходаў у кожным калгасе паасобку і на падставе правільнага разьмеркаваньня даходаў гэтага году дабіцца лепшай арганізацыі работы пастаянных вытворчых брыгад, укараненьня агратэхнікі і павышэньня ўраджайнасьці.

7. ЦК КП(б)Б лічыць работу па разьмеркаваньні даходаў у калгасах асноўнай задачай партыйных арганізацый на бліжэйшыя два месяцы, і прапануе РК КП(б)Б і вясковым ячэйкам КП(б)Б забясьпечыць самае канкрэтнае апэрацыйнае кіраўніцтва кожным калгасам па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з разьмеркаваньнем даходаў, пры чым асаблівую ролю ў гэтай справе павінны адыграць ячэйкі і паасобныя камуністы калгасаў і МТС.

ЦК абавязвае РК КП(б)Б устанавіць такое кіраўніцтва справай разьмеркаваньня даходаў у калгасах, каб пры кожным выпадку зьніжэньня даходаў калгасу і калгасьніка ў параўнаньні з мінулым годам, быў камандыраваны адказны прадстаўнік РК КП(б)Б для высьвятленьня прычын і прыняцьця неабходных мер на месцы.

Абавязаць усе райкомы і ячэйкі КП(б)Б абгаварыць зараз пытаньне аб разьмеркаваньні даходаў у калгасах і прыняць практычныя мерапрыемствы па правядзеньні гэтай важнейшай кампаніі.

8. У мэтах арганізацыі лепшага правядзеньня разьмеркаваньня даходаў і шырокай папулярызацыі дасягнутых посьпехаў у калгасным будаўніцтве, лічыць неабходным:

а) Даручыць культпропу ЦК разам з Калгасцэнтрам, навукова-дасьледчым калгасным інстытутам, газэтамі „Зьвязда" і „Савецкая Беларусь" укамплектаваць ня менш 3 літаратурных брыгад. Паставіць задачай гэтых брыгад, на працягу ўсяго пэрыяду разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю не радзей аднаго разу ў пяцідзёнку на вопыце канкрэтных калгасаў разгарнуць паказ на старонках газэт узораў правільнага разьмеркаваньня ўраджаю, а таксама дрэннай практыкі ў гэтай справе.

б) Даручыць Дзяржвыдавецтву Беларусі тэрмінова выдаць масавым тыражом ня менш 2—3 папулярных брашур аб разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у калгасах за 1932 г.

в) Абавязаць Культпроп ЦК і Калгасцэнтр у дэкадны тэрмін падрыхтаваць і выдаць макет насьценнай газэты па выніках гаспадарчага году ў калгасах, прадугледзіўшы ў макеце свабоднае месца для занясеньня прозьвішчаў калгасьнікаў—сапраўдных ударнікаў калгаснай вытворчасьці, а таксама гультаёў і прагульшчыкаў, з вынікамі разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю.

г) Даручыць агітмасаваму аддзелу ЦК разам з Калгасцэнтрам укамплектаваць 2 моцныя брыгады і паслаць іх у два вясковыя раёны з абавязацельствам арганізаваць там узорную работу па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах з тым, каб перадаць іх вопыт усім астатнім раёнам рэспублікі.

д) Вылучыць па адным працаўніку з складу раённага актыву на кожныя 5—7 калгасаў, абавязаўшы іх застававацца ў калгасах да поўнага сканчэньня работ па разьмеркаваньні даходаў.

е) Забясьпечыць такі парадак кіраўніцтва разьмеркаваньнем даходаў, пры якім скарга калгасьніка на няправільна праведзены з ім разьлік была-б уважліва разгледжана на працягу ня больш 3—5 дзён і па ёй былі-б прыняты адпаведныя меры.

ж) У ходзе разьмеркаваньня даходаў лічыць неабходным склікаць куставыя нарады сакратароў РК, кіраўнікоў райза і дырэктароў МТС для абмену вопытам у справе арганізацыі разьмеркаваньня даходаў і прыняцца раду мер для паляпшэньня пастаноўкі гэтай справы.

в) У пэрыяд з 1-га сьнежня ўсім райкомам і райкалгассаюзам правесьці раённыя нарады жаночага актыву калгасаў з мэтай мабілізацыі жаночых мас для ўдзелу ў разьмеркаваньні даходаў у калгасах; правесьці таксама нарады ўсіх старшынь калгасаў, разам з рахунковымі працаўнікамі, па пытаньнях разьмеркаваньня даходаў у калгасах, на-ходу выпраўляючы недахопы, выкрытыя ў гэтай рабоце.

і) Даручыць ЦК ЛКСМБ распрацаваць па сваёй лініі рад канкрэтных мерапрыемстваў, зьвязаных з павышэньнем удзелу і ролі камсамольскіх ячэек у разьмеркаваньні даходаў.

9. Для канкрэтнай дапамогі калгасам у правядзеньні разьмеркаваньня даходаў даручыць Менскаму гаркому КП(б)Б і гарпрафсавету да 5 сьнежня г. г. мабілізаваць у дапамогу калгасам блізкіх раёнаў ня менш 150 рахунковых працаўнікоў, галоўным чынам за лік цэнтральных апаратаў; Гомельскаму ГК і гарпрафсавету—ня менш 75; Віцебскаму ГК і гарпрафсавету—ня менш 75; Магілеўскаму, Бабруйскаму і Аршанскаму РК і райпрафсаветам—ня менш чым па 30 рахунковых працаўнікоў. Даручыць РК адначасова мабілізаваць наяўны ў раёне рахунковы апарат для дапамогі калгасам.

Гэта мабілізацыя павінна быць праведзена за лік рахунковых працаўнікоў, ведаючых умовы калгаснай вытворчасьці і здольных аказаць сапраўдную дапамогу калгасам.

10. Абавязаць агітмасавы аддзел ЦК КП(б)Б да 1 сьнежня 1932 г. мабілізаваць 60 чалавек з ліку цэнтральнага актыву для пасылкі іх на месяц у дапамогу раёнам па правядзеньні работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах. Арганізаваць самае ўважлівае інструктаваньне гэтых работнікаў, абавязаўшы т. т. Гікало і Шаранговіча выступіць на інструкцыйнай нарадзе.

Лічыць неабходным прымацаваць да асобных раёнаў на час работ па разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у калгасах членаў Бюро ЦК і кіруючых цэнтральных работнікаў, абавязаўшы іх пабываць за гэты час у 2—3 калгасах і прыняць непасрэдны ўдзел у рабоце па разьмеркаваньні даходаў.

11. ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе партыйныя, савецкія, зямельна-калгасныя арганізацыі і МТС, што разьмеркаваньне даходаў у калгасах будзе праходзіць ва ўмовах кулацкага супраціўленьня і імкненьня кулацтва правесьці разьмеркаваньне па ядоцкім, ураўнілаўскім „прынцыпе“. Задача партыйных, савецкіх арганізацый арганізаваць масы на рашучы ўдар па кулацкай дзейнасьці і разгарнуць вакол разьмеркаваньня даходаў шырокую масава-палітычную работу, з прыцягненьнем калгаснага актыву і мас калгасьнікаў.

Ва ўсёй масавай рабоце неабходна асабліва падкрэсьліць задачы выкананьня калгасамі сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай (загатоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў), разгарнуць рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, безадказнасьцю, расхлябанасьцю, абязьлічкай у рабоце калгасаў, з дробна-буржуазнымі і рвацкімі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі сярод асобных груп адсталых калгасьнікаў. Выхаваньне ў калгасьніка пачуцьця гаспадара свайго калгасу, павышэньне яго зацікаўленасьці ў калектыўнай працы, замацаваньне асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці—брыгады, разгортваньне баявой падрыхтоўкі да вясны, барацьба са стратамі і за павышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў—усё гэта павінна быць у цэнтры агітацыйна-масавай работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах.

## ШЛЯХ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПЕРАБУДОВЫ

Пастанова паляўнічага камітэту пры ўпаўнаважаным Наркамзамежгандлю СССР пры СНКБ ад 1-га кастрычніка 1932 г. „Аб падрыхтоўцы да зімовай паляўнічай кампаніі на 1932—33 год“, патрабуе ад паляўнічай каапэрацыі сур'ёзнай перабудовы сваёй работы, у прыватнасьці, карэннай рэарганізацыі нізавых зьвеньняў. У гэтым сэнсе пастанова паляўнічага камітэту зьяўляецца этапнай у разьвіцьці паляўнічай каапэрацыі.

Да 15-годзьдзя Кастрычніка паляўнічая каапэрацыя прышла з шэрагам перамог. З аматарскай арганізацыі першых год рэвалюцыі, засьмечанай і варожымі ідэямі і варожымі людзьмі,—мэтавай установкай якіх была замкнутасьць арганізацыі ў рамках, на даных ей „промыслам“ абшарніка і кулака,—паляўнічая каапэрацыя, праз бязьлітасную змаганьне з гэтымі элемэнтамі, праз пасьлядоўную барацьбу за масавасьць і сацыяльную чыстату сваіх радоў, дасягнула вялізарных посьпехаў у справе ўзмацненьня пушна-мехавога экспарту Савецкага Саюзу, здабываньня новых рэсурсаў харчаваньня.

Факт узросту колькасьці сяброў каапэрацыі з 24 тысяч 500 чалавек у 1930 годзе да 37 тысяч у 1932 годзе,—факт павялічэньня ўдзельнай вагі сыстэмы Белкахотсаюзу ў выкананьні плянаў улады па загатоўцы пушніны, мехсыравіны і другарадных відаў паляўнічай прадукцыі—служыць лепшым довадам гэтых посьпехаў.

Аднак, ня гледзячы на пералічанае, тэмпы і мэтады работы паляўнічай каапэрацыі яны, знаходзяцца яшчэ на значна ніжэйшым узроўні чымся ўзровень тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта сьцьвярджае той факт, што плян паляўнічага будаўніцтва значна недавыканан, што пацягнула, у сваю чаргу, недавыкананьне плянаў здабычы і загатовак пушнамехавой сыравіны.

На гэта яскрава паказвае IX зьезд паляўнічай каапэрацыі БССР у сваіх пастановах, вызначыўшых рад істотных недахопаў у рабоце арганізацыі і з гэтага—суму прынцыповых мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць перадаленьне адставаньня работы паляўнічай каапэрацыі ад работы іншых галін народнай гаспадаркі.

Вядучая роля ў суме гэтых мерапрыемстваў належыць справе рэканструкцыі паляўнічага промыслу на тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў, справе падвышэньня баяздольнасьці паляўнічай сыстэмы праз **умацаваньне калектыўна-вытворчых мэтадаў работы** (паляўнічая вытворча-прамысловая брыгада).

Першы і асноўны пункт пастановы паляўнічага камітэту ставіць перад сыстэмай адказнейшую задачу рэарганізацыі ячэйкі ў вытворча-прамысловыя брыгады, з усімі належнымі адсюль вывадамі:

„... У мэтах набліжэньня загатоўчай работы ў нізавыя зьвеньні паляўнічай сыстэмы, ліквідацыі самацёку і абязьлічкі ў рабоце, лічыць неабходным перабудаваць усю работу сыстэмы паляўнічай каапэрацыі БССР у разрэзе апошніх рашэньняў Наркамзамежгандлю і Саюз Пал. Цэнтру:

а) існуючыя сельячэйкі рэарганізаваць у паляўніча-прамысловыя вытворчыя брыгады па тэрытарыяльнаму прынцыпу месцазнаходжаньня паляўнічых—

б) пляны, вылучаныя па пушнамехавых загатоўках па кожнаму раёну, сельсавету—пераразьмеркаваць і давесьці да кожнай брыгады, з якімі заключыць гаспадарчыя дагавары. Адказнасьць за выкананьне ўскласьці на спэцыяльна-вылучаную асобу ў брыгадзе.

Адгэтуль вывады.

Асноўны з іх заключаецца ў тым, што паляўнічая каапэрацыя павінна зараз да канца перабудаваць сваю сыстэму ў вытворчым напрамку. **Каапэраваньне набывае пасьлядоўна вытворчы, сацыялістычны зьмест: брыгада, якая захоўвае арганізацыйныя функцыі нізавога зьвяна каапэрацыі, зьяўляецца, поруч з тым, вытворчай адзінкай, з адзіным гаспадарчым дагаворам, з удасканаленым мэтадам калектыўнага паляваньня. У гэтым асноўная розьніца, што мяжуе ячэйку і брыгаду, бо ячэйка, будучы калектыўнай структурнай адзінкай, ня была адзінкай калектыўна-вытворчай.**

У чым перавага брыгады?

Брыгада, што заключае адзіны гаспадарчы дагавор з загатоўчай арганізацыяй, нясе калектыўную адказнасьць за яго выкананьне. Вытворчая баяздольнасьць паляўнічай нізоўкі ўзрастае ў вялізарнай меры, бо праз гэта ліквідуецца асноўная супярэчнасьць ячэйкі—як зьвяна структурнага (членства ў арганізацыі) і вытворчага, выкарчоўваюцца рэшткі аматарніцтва, „бескантрольшчыны“—што панавала ў кожнай з ячэек сыстэмы, самацёку ў промысьле, абязьлічкі ў кантролі ячэйкі за выкананьнем дагавору кожным паляўнічым і сэрыі непаладак, што існавалі ў снабжэньні нізоўкі агнябояпрыладамі.

Замест таго, каб мець справу з сотнямі паляўнічых, масай людзей, сярод якой на практыцы райтаварыствам і загатоўчым арганізацыям было немагчыма дакладна вылучыць лепшых, з тым, каб упарадкаваць снабжэньне па вытворчаму прынцыпу. Арганізацыі, што вядуць загатоўчы працэс і райтаварыствы паляўнічых будуць мець справу з дзесяткамі калектыўных адзінак. **Плянаваць справу снабжэньня магчыма будзе ў дакладнейшых памерах, строга па вытворчаму прынцыпу, перадаўшы справу разьмеркаваньня агнябояпрылад сярод членаў брыгад—у самую брыгаду, што будзе азначаць рашучую актывізацыю брыгады, рашучае ўзмацненьне сацыялістычнага кантролю ў яе радох.**

Інакш ня можа і быць, бо ўзаемны кантроль унутры брыгады засноўваецца на вытворчых, а г. зн. асноўных інтарэсах брыгады.

Пастанова паляўнічага камітэту агаварвае спэцыяльным тэзісам набліжэньне загатоўчай работы да нізоўкі.

Устанаўліваецца штат спэцыяльных, вылучаных у межах кожнага сельсавету, зборшчыкаў па пушна-мехавой сыравіне з ліку старэйшых брыгадзіраў, або болей спрактыкаваных паляўнічых на процантных пачатках.

Вопыт збору пушніны на мясцох у мінулым цалкам сябе апраўдаў (Слуцак, Менск). Гэты працэс уводзіцца ў сыстэму, да якой па сутнасьці і вядзе арганізацыя брыгад. Перавага гэтай сыстэмы відавочная. Трэба дадаткова ўлічыць і тое, што ў інтарэсах кожнай брыгады—здача пушніны ў рукі арганізацыі, з якой брыгада зьвязана гаспадарчым дагаварам. **Адсюль—самакантроль у брыгадзе за шляхам руху пушнамехсыравіны з рук здатчыка ў рукі накупца. Спэкулянту і перакупшчыку, якія імкнуцца выкарыстаць савецка-калгасны гандаль у сваіх інтарэсах, наперакор інтарэсам пралетарскай дзяржавы, наносіцца новы руйнуючы ўдар.** Гэта апрача таго, што працэс прасоўваньня кожнай скуркі з месца промыслу ў распараджэньне загатоўчых арганізацый—паскараецца ў дзесяткі раз.

Калі раней „паляўнічая каапэрацыя слаба змагалася за ўмацаваньне сваёй базы, за гаспадарчы разьлік, за рэнтабельнасьць усіх гаспадарчых апэрацый, за суровае забесьпячэньне плянавасьці ў рабоце, за рэалізацыю 6-ці гістарычных умоў т. Сталіна“ (з паст. IX зьезду), то цяпер на аснове рэарганізацыі сыстэмы, перад паляўнічай каапэрацыяй устаюць новыя гарызонты ўзмацненьня вытворчай работы на сацыялістычнай аснове.

**Унутры самой брыгады элемэнты гаспадарчага разрахунку набываюць вядучую ролю.** Зарабіў—атрымай. Сыстэма гаспадарчага разрахунку развівацца зьнізу ўверх. Адсюль—**неабсяжныя магчымасьці разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, мэтадаў грамадзкага буксіру,** тым болей, што брыгада ў пытаньні тэрытарыяльнага адзінства мае відавочную перавагу перад ячэйкай, члены якой у пераважнасьці знаходзіліся па дыямэтру на адлегласьці да 10—15 км адзін ад другога.

Падкрэсьліваем пытаньне грамадзкай актывізацыі радоў паляўнічай каапэрацыі ў сувязі з рэарганізацыяй ячэек у брыгады.

У вялізарнай меры ўзрастаюць пэрспэктывы плянаваньня промыслу, упарадкаваньня паляўнічай каапэрацыі—бо тут лінія Белкахотсаюзу абапіраецца на ініцыятыву, самадзейнасьць зацікаўленай у гэтым **арганізаванай** на вытворчым прынцыпе нізоўкі.

Брыгада мае ўсе сродкі для таго, каб рашуча ўдарыць па браканьерству, незаконных мэтадах паляваньня і ігнараваньню тэрмінаў паляваньня з боку асобных паляўнічых.

Падвышаецца якасьць аргработы, якасьць кіраўніцтва. Штодзенная агульнасьць інтарэсаў павінна цэмантаваць брыгаду, ліквідаваць пасыўнасьць значнай часткі паляўнічых, спрыяць рашучаму разгортваньню культ-масавай работы, загартоўваньню і выхаваньню кадраў актыву, вылучэньню іх.

Такавы пэрспэктывы.

**Пастанова паляўнічага камітэту павінна быць зараз-жа ператворана ў дзеяньне. Ніякіх адтэрміновак!**

Рэарганізуючы сыстэму неабходна рашуча ўзмацніць тэмп пушна-мехавых загатовак, навярстаць недаданую ў папярэдніх кварталах дзяржаве пушнамехавую сыравіну. **Тэмп, якасьць загатовак—асноўнае пытаньне—на якім выпрабоўваецца баяздольнасьць арганізацыі.**

**Палітычна-прынцыпова ставячы пытаньне, узяўшы пад жорсткі абстрэл пралетарскай крытыкі і самакрытыкі ўсю работу сыстэмы,—паляўнічая каапэрацыя, пад кіраўніцтвам партарганізацый на мясцох, у сьвеце лёзунгу IX зьезду, павінна ажыцьцявіць перабудову ў мінімальны тэрмін.**

**М. Белазор.**

# Поўнасьцю ператварыць у жыцьцё рашэньні IX зьезда ўпаўнаважаных Белкахотсаюзу

Пралетарская рэвалюцыя дала права кожнаму працоўнаму займацца паляваньнем. Працоўныя паляўнічыя, атрымаўшы выключнае права на паляваньне, разам атрымалі і права будаваць сваю паляўнічую гаспадарку, як частку ўсяе народнай гаспадаркі. Будаўніцтва паляўнічае гаспадаркі праз паляўнічую каапэрацыю, партыяй і ўрадам ускладзена на саміх паляўнічых.

Формы і мэтады вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, паляўнічай каапэрацыі, узятыя ў першыя гады свайго існаваньня (выключна пераважаньне аматарства) прывялі да ўпадку становішча нашых паляўнічых угодзьдзяў. Даходзіла да пагрозы поўнага зьнішчэньня паляўнічай фауны. Гэта высунула перад паляўнічай каапэрацыяй неабходнасьць рашучай зьмены формы вядзеньня паляўнічае гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця апошняй, шляхам перабудовы працы на прамыслова-вытворчы ўхіл.

Новыя формы і мэтады вядзеньня паляўнічай гаспадаркі ўкараняюцца ў працу паляўнічай каапэрацыі і да IX зьезду ўпаўнаважаных работа паляўнічай каапэрацыі амаль што цалкам падпарадкавана прамыслова-вытворчаму прынцыпу, што зьяўляецца вялізарным дасягненьнем.

Аднак, дабіўшыся паказанага дасягненьня мы да гэтага часу не наглядаем рашучага пералому ў справе павышэньня таварнасьці нашых паляўнічых угодзьдзяў. Прычынай гэтаму зьяўляецца тое, што паляўнічая каапэрацыя яшчэ недастаткова павярнулася тварам да паляўнічае гаспадаркі і не мабілізавала вакол гэтага пытаньня думку ўсёй паляўнічай масы. Гэта адзначыў IX зьезд упаўнаважаных Белкахотсаюзаў у рэзалюцыі па дакладу Белкахотсаюза (часопіс. „Пал. Бел. № 7):

„п. 6. Недастаткова ўдзялялася ўвага сыстэмай Белкахотсаюзу разьвіцьцю паляўнічае гаспадаркі, у прыватнасьці:

а) да сучаснага моманту не наладжан вучот фауны паляўнічых угодзьдзяў;

б) не даведзены да шырокіх паляўнічых мас новыя формы і мэтады вядзеньня паляўнічае гаспадаркі (прыпіска ўгодзьдзяў);

в) адсутнасьць цьвёрдых тэрмінаў паляваньня, што шкодна адбіваецца на паляўнічай гаспадарцы і на таварнасьці набываемых аб'ектаў паляваньня.

Існуючая сыстэма арганізацыі заказьнікаў для павышэньня прадукцыйнасьці нашых угодзьдзяў не забясьпечвае неабходнага папаўненьня штогодна зьмяншаючайся фауны. У справе рэгуляваньня эксплёатацыі паляўнічых угодзьдзяў і аднаўленьня прадукцыйнасьці скарыстаных няма ніякай плянавасьці. Прычынай такога становішча зьяўляецца наша бязьдзейнасьць, драпежніцкія мэтады паляваньня, і галоўнае,—што ў гэту працу ня ўцягнуты шырокія паляўнічыя масы. Значная маса паляўнічых яшчэ не зразумела поўнасьцю значэньня паляўнічае гаспадаркі ў сацыялістычным будаўніцтве. У разважаньнях аб разьвіцьці паляўнічае гаспадаркі апошнія выходзяць з таго, каб ладна адпаляваць сёньня, а надалей—будзе відно.

У гэты час культ-асьветнай і растлумачальнай працы ў нашай сыстэме амаль што зусім не адчуваецца. Існуючыя пры т-вах сэкцыі паляўнічае гаспадаркі, у абавязак якіх уваходзіць весьці працу па разьвіцьці паляўнічых угодзьдзяў, да сучаснага моманту не разгарнулі працы, а тыя, якія крыху працуюць, займаюцца выключна пытаньнямі высьвятленьня спраў аб браканьерстве. Між тым, працы ў гэтай галіне непачаты край.

На паляўнічую каапэрацыю партыяй і ўрадам ускладаецца вельмі адказная задача. Гэта задача заключаецца ў тым, каб падпарадкаваць усю працу ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі па разьвязваньні мясной праблемы і павялічэньні выхаду экспартнай сыравіны.

Па пляну другой пяцігодкі паляўнічая каапэрацыя павінна павысіць прадукцыйнасьць паляўнічых угодзьдзяў ня менш як на 60 проц. па пушному зьверу і давесьці гадовы выхад пушніны ад 50 да 80 мільёнаў рублёў, павялічыць здабычу баравой дзічы (цецярука, глушца, рабчыка, белай курапаткі) з 7,2 мільёнаў штук да 12 мільёнаў і балотнай дзічы з 13 мільёнаў да 22 мільёнаў штук. У каштоўным выразе гэта дае павялічэньне з 8,2 мільёнаў да 18 мільёнаў рублёў.

Такі буйны ўзрост прамыслова-вытворчай дзейнасьці паляўнічай каапэрацыі ні ў якім выпадку ня можа быць ажыцьцёўлены пры сучасных мэтадах вядзеньня паляўнічае гаспадаркі. Высунутыя партыяй і ўрадам задачы патрабуюць ад паляўнічай каапэрацыі рашучага зьмяненьня існуючых мэтадаў вядзеньня паляўнічай гаспадаркі ў бок пераключэньня працы нашай каапэрацыі на павялічэньне прадукцыйнасьці паляўнічых угодзьдзяў. Павышэньня прадукцыйнасьці ўгодзьдзяў магчыма дабіцца толькі шляхам выкарыстаньня тых практычных прапаноў, якія раіў IX зьезд упаўнаважаных, грунтоўнымі мерапрыемствамі, якія павінны служыць павышэньню прадукцыйнасьці нашых паляўнічых. IX зьезд высунуў спэцыяльнае ўпарадкаваньне паляўнічых угодзьдзяў, вучот фауны ва ўгодзьдзях, павышэньне якаснага становішча заказьнікаў, барацьба з браканьерствам і шкоднікамі паляўнічае гаспадаркі і павялічэньне асыгнаваньняў на паляўнічую гаспадарку. (Гл. рэзолюцыю па дакладу ЦП Белкахотсаюзу ў часопісі „Пал. Бел.", № 8, за 1932 год).

Аднак, поўнае ажыцьцяўленьне пералічаных мерапрыемстваў не забясьпечыць нам выкананьне прынятых абавязацельстваў на II пяцігодку, калі ня будзем ужываць у сваей працы сацыялістычных форм і мэтадаў за наш плян—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, ня прыцягнем да гэтае справы шырокіх колаў паляўнічае масы. Трэба адзначыць, што да сучаснага моманту сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў рабоце нашай каапэрацыі не атрымала шырокага распаўсюджаньня. Калі мы жадаем сапраўды выканаць ускладзеныя на нас абавязкі і дапамагчы нашай пралетарскай краіне хутчэй вырашыць мясную праблему і павялічыць экспартныя рэсурсы,—а гэта наш прамы абавязак,—мы павінны безадкладна, пабальшавіцку ўзяцца за сапраўднае ператварэньне ў жыцьцё рашэньняў IX зьезда Упаўнаважаных Белкахотсаюзу.

Лёзунгам у працы кожнага райтаварыства павінна стаць—„Усе сілы і сродкі на 100-процантнае выкананьне рашэньняў зьезда!"

**М. К.**

# Па-ўдарнаму закончыць перарэгістрацыю паляўнічых

Згодна дырэктывы праўленьня Белкахотсаюзу ад 23 лістапада 1932 году за № 278 з 1-га сьнежня г. г. пачалася перарэгістрацыя ўсіх членаў саюзу Паляўнічых Беларусі.

Надаючы надзвычай вялікае палітычнае значэньне гэтай кампаніі, трэба перш за ўсё памятаць, што гэта кампанія неразрыўна зьвязана з грашовым умацаваньнем усёй сыстэмы, дакладнай праверкай і выяўленьнем сацыяльна-варожага нам. элемэнта. Побач з гэтым—прытоку ў саюз паляўнічых раду рабочых, калгасьнікаў і інш сацыяльна-блізкіх нам людзей.

Прымаючы пад увагу маючыйся вопыт у правядзеньні гэтай работы і улічваючы тыя памылкі, якія мелі месца за мінулыя гады, перарэгістрацыя на 1933 год павінна прайсьці больш арганізавана і ў значна карацейшы тэрмін.

Ні ў якім разе не павінны быць дапушчаны недарэчнасьці мінулых гадоў, як: расьцягваньне гэтай працы на ўвесь год, правядзеньне перарэгістрацыі бюракратычным чынам толькі ў раённым цэнтры, прыём паявых грошай без адпаведных адзнак у паявых кніжках, горш таго, адсутнасьць паявых кніжак, што часамі дае магчымасьць рабіць злоўжываньні з боку асобных работнікаў райтаварыстваў, адсутнасьць сталага вучоту членаў саюзу, паляўнічай зброі і г. д.

Прыступаючы да практычнага ажыцьцяўленьня гэтай справы, перш за ўсё трэба справу перарэгістрацыі зрабіць уласнасьцю ўсёй паляўнічай масы, канкрэтна прарабіўшы наступнае:

а) скласьці падрабязны каляндарны плян правядзеньня перарэгістрацыі;

б) прыцягнуць да выкананьня гэтай працы рады паляўнічы актыў, членаў праўленьня, старшынь паляўнічых брыгад і г. д.;

в) перарэгістрацыю рабіць непасрэдна ў сельсаветах на паляўнічых сходах у прысутнасьці прадстаўнікоў партыйных і савецкіх арганізацый, абмяркоўваючы кожнага паляўнічага паасобку, памятуючы аб тым, што ў момант перарэгістрацыі наша задача — недапусьціць ніводнага кулацкага, крымінальнага і інш. клясава-варожага нам элемэнта, а таксама злосных браканьераў, якія сыстэматычна парушаюць існуючыя правілы аб паляваньні.

У гэтай працы павінна быць праяўлена клясавая пільнасьць, ні на хвіліну не забываючы, што толькі працоўныя маюць права карыстацца паляўнічай зброяй.

Мы, асабліва за апошнія гады, дзякуючы адсутнасьці сталага вучоту паляўнічых стрэльбаў, маем выпадкі зьяўленьня іх на базарах і продаж нават тымі асобамі, якія ня маюць паляўнічых білетаў,— маем надзвычай вялікі рост браканьерства.

Усе паляўнічыя стрэльбы, якой-бы яны сыстэмы ня былі, павінны быць у абавязковым парадку зарэгістраваны ў паляўнічым білеце. Незаконнае трыманьне паляўнічых стрэльбаў забараняецца і прасьледуецца па закону. Той з паляўнічых, што выбывае з саюзу, павінен сваю паляўнічую стрэльбу прадаць праз магазын таварыства, або паляўнічаму, узяўшы ад яго адпаведную расьпіску і наогул, як правіла, пры перарэгістрацыі ўсе паляўнічыя павінны дакладна, з указаньнем нумароў фірмы, сыстэмы і г. д. зарэгістраваць усе паляўнічыя стрэльбы. Той, хто заявіць, што стрэльба, якая лічыцца ў яго паляўнічым білеце прадана, павінен прадставіць аб гэтым расьпіску і толькі пасьля гэтага сьпісваецца з яго стрэльба і запісваецца на тую асобу, якой ён прадаў.

Справа правільнага і дакладнага вучоту паляўнічай зброі павінна быць пастаўлена на належную вышыню. Гэта адзіны сродак барацьбы з браканьерствам.

Пры перарэгістрацыі павінны складацца ў абавязковым парадку сьпісы на наступнаму фармату:

нумары па чарзе, прозьвішча, імя і па бацьку, з якога часу паляўнічы, сацстановішча, партыйнасьць, займаемая пасада, нацыянальнасьць, з кім і на якую суму заключыў умову на здабычу пушнамехсыравіны, якія мае стрэльбы, нумар фірмы, сыстэма і дакладны адрас месцазнаходжаньня. Такія сьпісы, акрамя агульна-ўстаноўленых анкет, павінна мець кожнае таварыства паляўнічых.

Таксама трэба мець на ўвазе, што згодна пастановы праўленьня Саюзахотцэнтру, пачынаючы з 1933 году ўводзяцца адзіныя паляўнічыя білеты па ўсім Савецкім Саюзе, аднолькавага ўзору, blankі якіх будуць разасланы ўсім райтаварыствам у першых ліках студзеня месяца 1933 году. Да атрыманьня новых білетаў адзнака аб перарэгістрацыі павінна рабіцца ў старых членскіх білетах, а ўноў уступаючым выдаецца часовае пасьведчаньне.

У новых адзіных паляўнічых білетах павінна быць фота-картка кожнага паляўнічага, аб чым загадзя павінен паклапаціцца кожны паляўнічы.

Пры перарэгістрацыі абавязкова павінны рабіцца адзнакі аб прынятых паявых і мэтавых узносах у паявых кніжках, а ўноў уступаючым і тэрміны ўнясеньня паявых узносаў.

Справа грашовага ўмацаваньня райтаварыстваў павінна быць улічана кожным паляўнічым і праўленьнямі райтаварыстваў цалкам, ліквідаваўшы паявую і мэтавую запазычанасьць мінулых гадоў.

Трэба шырока папулярызаваць тыя ільготы, якімі карыстаюцца моладзь да 22 год і жанчыны пры ўступленьні ў саюз паляўнічых, г. зн. ўнясеньне толькі 50 проц. паявых узносаў у залежнасьці да якой катэгорыі па шкале адносіцца ўступаючы.

Побач з гэтым, перарэгістрацыя павінна быць цесна ўвязана з правядзеньнем шырока-растлумачальнай работы па распаўсюджаньню друкаванага органа Белкахотсаюзу „Паляўнічы Беларусі“ і „Охотничьей газеты“ орган Саюзахотцэнтру.

Паляўнічы, зацікаўлены працай паляўнічай кааперацыі, не павінен застацца на 1933 год без часопісі.

**Паляўнічы!** Мабілізуй сябе на выкананьне ўсіх вышэй пералічаных задач.

**А. В.**

# Пакрыць запазычанасьць пралетарскай дзяржаве

Загатоўчы год закончыўся. Якія яго вынікі? Да гэтага часу загатаўцелі па пушна-мехсыравіне па Беларусі ня могуць хваліцца сваімі дасягненнямі, а наадварот, мы стаім у апошняй групе з 3-х па Ўсесаюзным маштабе. А паміж іншым, мы маглі і павінны былі-б стаяць у першай групе, бо пачатак году (першы квартал) мы перавыканалі (104 проц.) і, заспакоіўшыся на першым квартале, мы апусьцілі лейцы і другі квартал ужо паказаў прарыў—усяго выканана было 54 проц., трэці квартал—55 проц.

Улічваючы такі прарыў на працягу 3-х кварталаў, загатоўчым арганізацыям трэба было намагчы ўсё, каб у 4-м квартале выраўняць гэта становішча і ліквідаваць прарыў, а ў выніку—кастрычнік дае далейшае прыбаўленьне процанту прарыву (выкананьне толькі 41,8 проц.). Хто вінават у гэтым? Бязумоўна, у першую чаргу самі загатаўцелі.

Возьмем Белзаготпушніну, у якой крывая хоця і ўверх ідзе, але далёка недастаткова,—плян ня выконваецца. Загадчыкі пунктаў ня ўлічылі і ня ўлічваюць магчымасьцяй выкананьня пляна, інакш яны правялі-б усю падрыхтоўчую работу, каб паляўнічы ў час меў усё неабходнае да вясеньня-летняй кампаніі па крату і цяпер да асеньня-зімовай кампаніі па пушніне, вадзяным пацуку, а таксама і другіх відах пушніны.

Зразумела, што плян можна выканаць толькі прыцягваючы ўсю грамадзкасьць раёнаў, калгасы, вучняў, камсамол, прафсаюзныя арганізацыі—там плян выконваецца і перавыконваецца—такія былі адзначаны прэміяваньнем і занесены на чырвоную дошку па лініі Саюзпушніны, як Горацкі, Крычаўскі, Гомельскі і інш. загатпункты.

Але там, дзе загадчыкі пунктаў не праводзілі масава-растлумачальнай работы, дзе работа ішла самацёкам, там мы маем прарыў і прарыў глыбокі. Ганьба такім загадчыкам пунктаў, якія прадаюць сваімі халатнымі адносінамі да выкананьня плянаў сваіх таварышоў па арганізацыі, якія сьвядома аддаюць усю сваю энэргію на выкананьне пляна.

Таксама кепска абстаіць справа і з Белкахотсаюзам. У той час, як Белкахотсаюз у першым квартале выканаў на 112,3 проц., ужо другі квартал дае 35,7 проц., трэці квартал 42,2 проц. У чым хаваецца тут прычына? У тым, што ня гледзячы на ўсе заходы прыняць актыўны ўдзел у разгортваньні масавай работы па лініі членаў паляўнічых, яна вельмі марудна і мала праводзілася. Вельмі марудна праходзіць рэарганізацыя паляўнічых ячэек у паляўнічыя брыгады, не разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва, а калі не разгорнуты сацыялістычныя мэтады работы, дык і такія вынікі.

Яшчэ горш абстаіць справа па лініі Белкаапсаюзу. Маючы сетку ў 5 тысяч точак па ўсіх сельсаветах, плян выконваецца найгорш, як напрыклад, па першаму кварталу—96 проц., па другому—76 проц., па трэцяму—46 проц., а кастрычнік дае 22 проц. і першая дзесяцідзёнка лістапада 2 проц. Тут становішча зусім катастрафічнае. Самая моцная арганізацыя па лініі грамадзкасьці, якая мае шырокую сетку па сельсаветах, павінна была па лініі загатовак пушна-мехсыравіны мець крывую, якая ўзьнімаецца ўверх, а між іншым мы маем адваротнае і горшае чым у арганізацыях, якія толькі першы год існуюць і маюць толькі арганізацыйны пэрыяд.

Калі ўзяць пытаньне аб заключэньні гаспадарчых дагавароў, дык тут праходзіць работа зусім і зусім слаба. Па Белзаготпушніне да 15 лістапада падпісана дагавароў толькі на 100 тысяч рублёў, што ў параўнаньні з плянам на 4 і 1 кварталы ў суме далёка недастаткова, а па Белкахотсаюзу і Белкаапсаюзу зьвестак да гэтага часу зусім няма. Аб важнасьці гэтага пытаньня гаварыць ня прыходзіцца, бо на практыцы мы бачым, што там, дзе гаспадарчыя дагавары заключаны, выкананьне пляну праходзіць здавальняюча. Зрыў заключэньня дагавароў раўняецца зрыву ўсяго нашага загатоўчага пляну.

Мы стаім перад пачаткам першага кварталу 1933 году. Будучы год мы павінны яшчэ больш узмоцненымі тэмпамі працаваць, бо наш плян павялічан і мы павінны будзем усе сілы, усе мэтады работы, усе здольнасьці рынуць на выкананьне пляна, асабліва першага кварталу 1933 году, які павінен быць праведзен з вялікім перавыкананьнем, бо за намі вялікая запазычанасьць 4-га кварталу.

Ёсьць яшчэ на руках у дастатковай колькасьці крот і зімняя пушніна, усё гэта трэба падабраць, бо гэта валюта, якая неабходна зараз краіне для будаўніцтва сацыялістычнага бясклясавага грамадзтва.

Якія-ж вурокі мы павінны вынесьці з ганебнага прарыву за мінулы год, каб выканаць першы квартал 1933 году на ўсе 100 проц.

Асноўнымі мерапрыемствамі, якія забясьпечваюць ход загатовак, зьяўляецца:

1) зараз-жа там, дзе гаспадарчыя дагавары не заключаны з калгасамі, калгасьнікамі і аднаасобнікамі паляўнічымі—да 1-га студзеня 1933 году поўнасьцю закончыць.

2) Штодзённая праверка загатаўцелем рэальнасьці выкананьня гэтых дагавароў абодвымі бакамі, г. зн. выдача авансаў грашыма, прамтаварамі, боязпрыладамі.

3) Своечасовы выхад паляўнічага на паляваньне і здача здабытай ім пушніны ў тэрмін.

4) Забясьпечыць паляўнічага з боку загатаўцеля своечасовай перасылкай прам. і спажыўтавараў, каб паляўнічы ведаў, што пры здачы пушніны ён адразу атрымае тое, што неабходна яму.

5) Улічваючы канец палявых работ і вольныя рабочыя рукі, патрэбна максымальна прыцягваць калгасы, калгасьнікаў і аднаасобнікаў да масавай здабычы зьвера—ваверкі, тхара, гарнастая, зайца, крата, матар'яльна зацікавіць паляўнічага—калгасьніка і аднаасобніка-бедняка і серадняка і праўленьне калгасу.

6) Шырока разгарнуць загатоўкі мэтадамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва арганізацыі з арганізацыяй, паказваць лепшых ударнікаў—байцоў на загатоўчым фронце.

7) Цьвёрда праводзіць шэсьць умоў т. Сталіна і змагацца з апартуністычнымі праяўленьнямі на практыцы ў загатоўках.

Усе гэтыя мерапрыемствы павінны забясьпечыць посьпех загатоўкам, пакрыць прарыў і ўдарна выканаць першы квартал 1933 году.

Мелер

# Аб якасьці пушніны і мехсыравіны

Прыродная якасьць беларускай пушніны і мехсыравіны, наколькі мне прышлося вывучыць яе на працягу 11 год—дастаткова высокая. На Беларусі ёсьць такія віды пушніны і мехсыравіны, якія па сваёй якасьці займаюць першае або другое месца ва ўсім Савецкім саюзе (чорны шашок, норка, крот, жарабок і г. д.).

Нажаль, высокая прыродная якасьць нашай пушніны і мехсыравіны губляе, сыстэматычна абясцэньваецца выключна з-за дрэннай апрацоўкі скуры таго ці іншага зьвера.

Прыкладна скуру вавёркі і гарнастая нашы паляўнічыя звыклі засушваць воласам наверх. Гэты спосаб сушкі паніжае каштоўнасьць скуры на 10 проц., у той час, калі пасьля зьёмкі сушыць скуру мяздрою наверх значна лягчэй. Некаторыя паляўнічыя пасьля зьёмкі скуры, калі яна вывернута мяздрою наверх, пераварочваюць яе воласам наверх і набіваюць гэтую скуру попелам ці саломаю. У выніку—мяздра гніе, прэе, волас пачынае выпадаць, атрымліваюцца пляшы. Такая скура адносіцца ўжо да браку і губляе каштоўнасьць на 75 і больш процантаў.

Другія паляўнічыя пачынаюць здымаць скуру, асабліва вавёркі—ад галавы. Гэты мэтад зьёмкі нікуды ня варты таму, што ў галоўцы маленькая дзірачка і калі праз гэту дзірачку прыходзіцца вырываць заднюю частку, скура рвецца і гэтым зьніжаецца яе каштоўнасьць. Апрача гэтага, пасьля такой зьёмкі вельмі цяжка расправуляць скурку і яна атрымлівае выгляд лягушкі (таму і завецца „лягушкай“), якае паніжае каштоўнасьць скуры на 10 проц. Кожны паляўнічы павінен памятаць, што для таго, каб атрымаць поўны кошт за сваю дабычу (вавёрку, гарнастая, ласку, зайца русака і зайца-беляка), неабходна засушыць скурку мяздрою наверх і зьнімаць яе з тушы зьвера не з галавы, а з агузка, г. зн. зрабіць роўны разрэз паміж заднімі лапкамі, вызваліць лапкі і хвост ад касьцей. Тады скурка лёгка і хутка здымаецца і пры хатняй тэмпэратуры за 2—3 гадзіны высыхае.

Астатнія віды пушніны варта зьнімаць таксама з агузка, але засушваць трэба воласам наверх.

Скуру сабакі, кошкі і труса трэба здымаць пластом, г. зн. зрабіць разрэз удоўж па брушку, ачысьціць ад мяса і тлустасьці, расправіць бяз зморшчак, прыбіць да дошкі па краёх скуры мяздрою наверх і засушваць пры нармальнай тэмпэратуры.

Асабліва дрэнна за апошні час у нас справа з апрацоўкай скуры зайца-русака. Паляўнічыя ў пагоні за мясам зусім ня лічацца з каштоўнасьцю



скуры. Вельмі часта атрымоўваюцца скуры з адарванымі галовамі, што паніжае каштоўнасьць на 25 проц. Часта яшчэ бываюць скуры рваныя, волас якіх заліты крывёю, засушаныя не ў расправуленым выглядзе. Гэта зьніжае каштоўнасьць скурак на 50—75 проц. Між тым заяц-русак адзін з першых відаў беларускай пушніны.

У выніку нядбайных адносін паляўнічага да зьёмкі, выпраўкі і сушкі пушніны і мехсыравіны, мы атрымоўваем наступны малюнак якаснага выхаду пухмехсыравіны на 1-е паўгодзьдзе 1932 г.:

1. Вавёркі 1-га гатунку 33 проц., 67 проц. складаюць падсортныя і брак;

2. Зайца белага 1-га гатунку 10 проц., зайцарусака 1-га гатунку—31 проц., куніцы 1-га гатунку 43 проц., крата—41 проц., лісіцы—27 проц., шашка чорнага—26,5 проц., норкі—32 проц., кошкі—43 проц., труса—15 проц. і сабак—50 проц.

**Таварышы паляўнічыя!** З гэтых паказчыкаў вы павінны зрабіць вынік, што з-за нядбайных адносін да апрацоўкі скуры таго ці іншага здабытага зьвера, вы губляеце сотні тысяч рублёў і гэтым падрываеце нашы экспартныя пляны, якія маюць вялізарнае значэньне для пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

Кожны паляўнічы павінен памятаць, што нельга супакойвацца на тым, што ён забіў зьвера. Галоўную і самую сур'ёзную ўвагу неабходна звярачваць на якасную апрацоўку скуры.

Бяз якасьці паляваньне нічога ня варта.

Элінсон.

# Паляўнічая гаспадарка Віцебшчыны

За апошнія гады прадукцыйнасьць паляўнічых угодзьдзяў Віцебскай паляўнічай гаспадаркі значна зьменшылася. Там, дзе некалькі год таму назад можна была знайсьці шмат дзічы — зараз або яе мала, або зусім няма. Такое зьбядненьне ўгодзьдзяў тлумачыцца радам прычын, у прыватнасьці: слаба ўдзяляемай увагай з боку райтаварыства пытаньням захаваньня і разьвядзеньня паляўнічае фауны і аховы паляўнічых угодзьдзяў наогул, адсутнасьцю плянавых мэтадаў барацьбы з драпежнікамі і шкоднікамі паляўнічае гаспадаркі, якія шмат зьнішчаюць дзічы і наяўнасьць яшчэ шырокага браканьерства і слабай барацьбы з ім.



Побач з гэтым часткова адбіваецца на прадукцыйнасьці паляўнічых угодзьдзяў — мэліарацыя і зьмяншэньне лясной плошчы. Аднак, пры належнай зацікаўленасьці з боку паляўнічай арганізацыі да пытаньняў паляўнічай гаспадаркі апошнія абставіны не маглі-б адмоўна адбівацца на прадукцыйнасьці ўгодзьдзяў.

Да ліпеня месяца Віцебшчына мела два заказьнікі. Ахова заказьнікаў нікуды не варта; у заказьніках сыстэматычна вытвараецца паляваньне браканьерамі.

Рашучых мер да спыненьня гэтага зьявішча Райтаварыствам не прымалася і браканьеры працягвалі безадказна гаспадарыць у заказьніках. Такім чынам, мэта, з якой арганізоўваліся заказьнікі, ня дасягалася. Праўда, за апошні час праўленьне райтаварыства перайшло на шлях жорсткай барацьбы з браканьерствам і трэба чакаць, што ў бліжэйшы час гэта дасьць свае станоўчыя вынікі.

Адбыўшыйся IX зьезд упаўнаважаных Белкахотсаюзу прыняў рад рашэньняў, накіраваных у напрамку паляпшэньня нашых паляўнічых угодзьдзяў у сэнсе падняцьця іх прадукцыйнасьці. Гэтыя рашэньні зьяўляюцца этапам у ажыцьцяўленьні пасьлядоўнай палітыкі нашай паляўнічай сыстэмы на пераход апошняй на прамыслова-вытворчыя мэтады працы.

Рашэньні зьезду вынікаюць з чарговых задач паляўнічае арганізацыі ў напрамку дапамогі нашай пралетарскай краіне ў вырашэньні мясной праблемы і павялічэньні экспартных рэсурсаў. Як жа Віцебская арганізацыя выконвае рашэньні зьезду?

Адразу пасьля зьезду Віцебскай паляўнічай арганізацыяй быў арганізаваны трэці заказьнік на баравую дзіч; узяты пад ахову цяцеркі шляхам забароны адстрэлу іх; ужо прыступлена і фактычна вытвараецца паляўніча-эканамічнае абсьледаваньне раёну, распрацоўваюцца мерапрыемствы па правядзеньні ўпарадкаваньня паляўнічых угодзьдзяў; вядзецца падрыхтоўчая праца да адчыненьня чацьвертага заказьніка выключна на пушнога зьвера (зайца і лісіцу) і іншыя мерапрыемствы, накіраваныя да разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі і ўзьняцьця прадукцыйнасьці яе ўгодзьдзяў. Па трусагадоўлі прымаюцца ўсе захады да выкананьня запраэктаванай лічбы грунтоўнага стада трусоў на 1933 г. у ліку 400 галоў матак (ня гледзячы на цяжкасьці з кармамі).

Такімі мерапрыемствамі адказала Віцебская паляўнічая арганізацыя на прапановы зьезду. Недахопам у рабоце Віцебскага райтаварыства трэба адзначыць слабае ўжываньне па ўсёй сыстэме сацыялістычных форм і мэтадаў. Гэта кепска адбіваецца на тэмпах і якасьці працы. Адсутнічае і шырока-разгорнутая культасьветная праца, а таксама папулярызацыя рашэньняў зьезду сярод паляўнічых мас.

Калі пералічаныя недахопы ў рабоце Віцебскай паляўнічай арганізацыі будуць зьнішчаны, яна будзе забясьпечана ўсімі ўмовамі да сапраўднага ажыцьцяўленьня рашэньняў зьезда і выкананьня сваіх абавязкаў перад партыяй і савецкай уладай у сэнсе падпарадкаваньня працы паляўнічае каапэрацыі запатрабаваньням сацыялістычнага будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці, у вырашэньні мясной праблемы і павялічэньні экспартных рэсурсаў нашай пралетарскай краіны.

**Кашко.**

# Разьлічыцца з браканьерам (Бешанковіцкі раён)

Сярод паляўнічых існуе два віды браканьераў: браканьеры злосныя, якія не паддаюцца выпраўленьню, і браканьеры з паляўнічых, што ня ўсьвядомілі адказнасьці за парушэньне правіл паляваньня. Самым шкодным зьяўляецца першы від браканьерства. З ім пав'нна весьціся бязьлітасная барацьба.

Адным з такіх злосных браканьераў зьяўляецца паляўнічы, член Бешанковіцкага таварыства, Самазванаў Ясьцігней (Сысоенак), які пражывае ў вёсцы Казінікі. Самазванаў сыстэматычна вытварае паляваньне ў паказаным заказьніку, які належыць Віцебскай арганізацыі паляўнічых. Так, 30 ліпеня ён вытвараў паляваньне на качак на возеры заказьніка. 11 кастрычніка, за 4 дні да пачатку паляваньня на зайцаў, ён вытвараў паляваньне на іх і забіў двох.

Досыць даваць магчымасьць гэтаму злоснаму браканьеру-шкодніку вытвараць свае шкодніцкія ўчынкі.

Надышоў час, каб пакончыць з гэтым браканьерам і выкінуць яго з радоў паляўнічых.

**М. К.**

# Рашуча перабудаваць работу!

1.

Слуцкае таварыства паляўнічых па колькасным складзе—адно з буйнейшых у БССР. Таварыства налічвае 1 тыс. 053 паляўнічых, аб'яднаных у 25 ячэек, з якіх 9 знаходзяцца на тэрыторыі Чырвона-Слабодзкага раёну, абслугоўваемага Слуцкам.

Абапіраючыся на даныя росту арганізацыі і палепшаньне яе сацыяльнага складу (неадрыўнай часткай якога была напружаная і — чаго нельга адмовіць — сапраўды масавая работа па ачыстцы ячэек ад варожых элемэнтаў), неабходна з усёй упэўненасьцю адзначыць яе працаздольнасьць і вялізарнейшыя магчымасьці ў выкананьні пастаўленых перад паляўнічай каапэрацыяй задач. Рад фактаў сьцьвярджае гэта палажэньне.

Неаднаразова, у прыватнасьці ў першым квартале бягучага году, Слуцкае Таварыства заваёўвала месца на Ўсебеларускай чырвонай дошцы пушна-мехавых загатовак. У арсенале практычнага вопыту таварыства ёсьць рад фактаў бальшавіцкай ініцыятывы і апэрацыйнасьці ячэек, асобных паляўнічых у барацьбе за пляны загатовак, за зьнішчэньне драпежнікаў і г. д. Нарэшце, і ачыстка арганізацыі ад „чужакоў" у вялізарнай меры падвышала ўзровень яе грамадзкай актывізацыі.

І ўсё-ж работа таварыства знаходзіцца на абсалютна нездавальняючай вышыні. Наяўнасьць буйнейшых прарываў у арганізацыйнай, культ-палітмасавай рабоце, прарываў у загатоўках пушна-мехавой сыравіны, якія сыстэматычна паглыбляюцца з другога кварталу і прывялі Слуцак з чырвонай на чорную дошку,—наяўнасьць усяго гэтага патрабуе ад Слуцкага таварыства неадкладнай, карэннай перабудовы форм і мэтадаў работы на новых пачатках.

2.

Характар і зьмест работы таварыства ў выключна яскравай меры характарызуе дынаміка пушна-мехавых загатовак бягучага году. Першы квартал 1932 году Слуцак адзначыў бліскучым перавыкананьнем пляну пушна-мехавых загатовак. Перавыкананьне праграмы кварталу на 76 проц. прывяло таварыства на чырвоную дошку рэспублікі. Гэты вынік ня быў выпадковым.

Сукупнасьць задач першага кварталу (перарэгістрацыя, перавыбары ячэек) — неадрыўная ад пытаньня пушна-мехавых загатовак, на эфэктыўнасьці якіх выпрабоўвалася баяздольнасьць арганізацыі,— патрабавала ад таварыства мабілізацыі ўсіх радоў на заваяваньне перамогі. Перакінуўшы апарат на вёску (а гэта азначала рашучае ўзмацненьне апэрацыйнага кіраўніцтва масавай работы), узорна арганізаваўшы загатоўчы працэс (прыёмка пушніны на мясцох)—і зусім законамерна—сустрэўшы хвалю ініцыятывы зьнізу, т-ва здолела гэтую перамогу заваяваць.

Аднак, на працягу наступных кварталаў кіраўніцтва Слуцкага таварыства ня здолела замацаваць узятых вышынь. Замест бальшавіцкага вучоту ўрокаў кварталу і паглыбленьня ўзятай лініі—кіраўніцтва таварыства пакацілася па коўзкай дарожцы „адпачываньня на лаўрах". Адпачываньне абгрунтоўвалася радам „аб'ектыўных" фактаў і прычын у выглядзе ссылак на адсутнасьць апарату, адсутнасьць крата („апоры" квартальнай праграмы) і так да адсутнасьці настрояў у старшыні таварыства Пятрова працаваць—уключна.

Квартальны плян быў выканан на 33 проц. і выклікаў канчатковую „згубу пэрспэктыў" у кіраўніцтве. 51 проц. выкананьня пляну пушнамехавых загатовак у 3 квартале прывёў да зьняцьця з работы старшыні т-ва Пятрова, які заставіў новаму кіраўніцтву цяжкую спадчыну „абломаўскага" зацішша ва ўсіх зьвеньнях работы.

У лістападзе кіраўніцтва праўленьнем прымае Міхайлаў — стары камуніст са стажам адказнай работы.

3.

Указаньні на характэрнасьць работы па пушна-мехавых загатоўках для зьместу работы т-ва наогул можна падмацаваць радам фактаў. Т-ва праспала рашаючыя ў сэнсе загатовак другараднай сыравіны—другі і трэці кварталы, што прывяло да поўнага зрыву ў гэтай галіне загатовак. У прыватнасьці, лектэхсыравіны т-ва загатовіла на суму 292 руб., замест плянавых 5 тысяч руб.

Бязьдзейнасьць кіраўніцтва прывяла да поўнай бязьдзейнасьці нізоўкі. Ніякай сыстэматычнай арганізацыйнай работы ў ячэйках не наладжана. Вінцікі арганізацыі „расхлябаны" да адказу. Рад ячэек— **Протчыцкая, Урэцкая, Першамайская** — існуюць толькі на паперы. На рабоце часткі ячэек, асабліва **Ўрэцкай**, адбіўся і недастаткова пільны падбор кіраўніцтва. Старшыня Ўрэцкай ячэйкі — **Гурскі Васіль** сам дэзарганізуе работу ячэйкі і загатоўкі. У сваёй ячэйцы ён высунуў, абапіраючыся на адсутнасьць шроту ў т-ве, лёзунг:"

„шроту не даюць, не давайце пушніны".

І Ўрэцкая ячэйка пушніну не здае, хаця яе зона лічыцца пушной. Ячэйка на чале з Гурскім сплаўляе пушніну і мех па „невядомаму" адрасу.

Праўленьне не зацікавілася гэтай справай, хаця аб Гурскім двойчы пісала насьценгазэта „Чырвоны Паляўнічы". Удабавак да таго, што Гурскі дэзарганізуе работу ячэйкі, ён дэзарганізуе і тэрміны паляваньня, бо сам да тэрміну забіў лісіцу.

Відавочна, што пры такім кіраўніцтве ячэйкай аб яе працаздольнасьці ня можа ісьці і размовы. Аднак, Гурскі да гэтага часу знаходзіцца на чале ячэйкі, ня прыцягнуты да адказнасьці.

Гэта тлумачыцца абязьлічаным, папяровым кіраўніцтвам праўленьня таварыства. Стаўка „на паперу" далёка не ліквідавана. Ужо гэта сьведчыць аб тым, што новае кіраўніцтва таварыства ня здолела ў прынцыповай меры перабудаваць работу.

Папяровае-ж кіраўніцтва, апрача ўсіх хіб канцэлярскай валакіты, пасуе яшчэ і тым, што ня кожная ячэйка, па ўзроўню пісьменнасьці, дарасла да складанага (ды нават і простага) цыркуляра. І гэта ня толькі аб кепскай, але і добрай, працаздольнай ячэйцы, узорам якой могуць служыць **Мялешкаўская, Сераднякоўская ячэйкі**.

**Мялешкаўская** ячэйка, якая складаецца з 38 чал. (з іх 30—калгасьнікі), арганізаваная, дысцыплінаваная. Ячэйка з пачатку году пераключылася на калектыўныя формы паляваньня і зьяўляецца першай у раёне па выкананьні прамысловых абавязацель-

стваў. Ударнікі паляўнічыя гэтай ячэйкі прэміяваны таварыствам. Так **Жаўрыд Павел**, калгасьнік, былы бядняк—у гадавіну Кастрычніка прэміяван прамтаварамі на суму 30 рублёў.

Прэміяваны ўдарнікі Серадняхоўскай ячэйкі: калгасьнік **Кісель Іван**—прамтаварамі на суму 75 рублёў, аднаасобнік **М. Х. Брыдько**—на суму 20 рублёў.

У галіне барацьбы з драпежнікамі асабліва вылучылася **Палікарпаўская** ячэйка, якая сваімі сіламі на адной аблаве ліквідавала 7 ваўкоў, на другой—аднаго. Ячэйка прэміявана Белкахотсаюзам. Station ўчасьць яе вопыту асабліва выпукляецца, калі адзначыць, што таварыства на барацьбу з драпежнікамі накіроўвала зусім слабую ўвагу, бо арганізаваным шляхам за бягучы год ліквідавана ўсяго 9 ваўкоў. (Ня лічучы Палікарпаўскай ячэйкі—1).

4.

Аднак, хаця і „са скрыпам" перабудова таварыства праходзіць, але кіраўніцтва таварыства робіць першыя крокі ў напрамку ажыцьцяўленьня пастаноў IX зьезду паляўнічай каапэрацыі і пастаноў паляўнічага камітэту пры уп. Наркамзамежгандлю СССР пры СНКБ аб рэарганізацыі ячэек у вытворча-прамысловыя брыгады.

Таварыства становіцца на шлях стымуляваньня работы і загатовак прэміяваньнем ячэек, асобных паляўнічых. У сярэдзіне лістапада таварыства ўжо пачало рэарганізацыю ячэек (**Дарасіно, Замошша**). Першыя нават крокі ў гэтым напрамку далі станоўчы рэзультат. Рэарганізацыя актывізавала паказаныя ячэйкі, выклікала хвалю дзелавой, у радзе выпадкаў высока палітычна-прынцыповай крытыкі і самакрытыкі. Агульнай думкай асновай часткі паляўнічых зьяўляецца мэтазгоднасьць рэарганізацыі ячэек, яе своечасовасьць. Перавядзеньне самой вытворчай работы на калектыўную аснову ў вялізарнай меры ўзьніме працаздольнасьць нізавых зьвеньняў.

Паляўнічыя з свайго боку адзначаюць рад адмоўных фактаў у рабоце таварыства, якія павінны быць ліквідаваны па рэарганізацыі. Абсалютна нездавальняючае снабжэньне, яго абязьлічанасьць. Прымусовы асартымэнт.

Прычыны?

Праз краму праходзяць тысячу людзей. Паляўнічы блізкі да крамы, — яе „бальельшчык", штодзённы наведвальнік.



Брыгада паляўнічых ідзе на паляваньне.

Вылучыць у такой масе людзей лепшых, упарадкаваць справу снабжэньня адзінак пры штодзённым дэфіцыце такіх тавараў як порах, шрот, пістоны—і г. д.—немагчыма. „Дальнія", тое-ж Дарасіна, Замошша, ня гледзячы на тое, што маюць права атрымаць тавары ў першую чаргу—яго не атрымліваюць. Пры брыгаднай структуры арганізацыі, як структуры вытворчай калектывізацыі, задачы снабжэньня спрашчаюцца ў дзесяткі раз.

Выклікае нараканьні прымусовы асартымэнт, т-ва разводзіць рукамі:

— Што зробіш?

Белкахотсаюз снабжае кепска.

А заняцца саманарыхтоўкамі ў Слуцкіх кіраўнікоў т-ва на поўны ходзе хапае сьмеласьці.

Рашаючы квартал пушна-мехавых загатовак напалову сарваны з-за іх адсутнасьці. Нізоўка рэагуе на гэта сваявобразна. Здабытая пушніна або зусім ня ідзе (Урэцкая ячэйка), або ідзе ў рукі спэкулянта.

„Увязачкі" паміж таварыствам паляўнічых і аддзяленьнем Белпушніны няма. Гэты факт цягне за сабой на сёньня вельмі сур'ёзныя рэзультаты.

Слуцкае Аддзяленьне Белпушніны фактычна прыступіла да рэарганізацыі ячэек у брыгады на аснове дзяляцкіх установак, („давай і кропка"), абсалютна без усялякага ўзгадненьня з т-вам Паляўнічых.

— Бывае хужэй,—кажа вэтэран паляўнічай каапэрацыі, тав. Сычэўскі,—ды рэдка!..

Так, рад зьнешніх і ўнутраных тормазаў адбіваецца на рабоце таварыства. Аднак, у першую чаргу неабходна ліквідаваць менавіта ўнутраныя фактары, якія тармозяць работу таварыства.

У мінімальны тэрмін таварыства павінна рашуча перабудаваць усю работу ў напрамку канкрэтызацыі, узмацненьня апарацыйнасьці жывога (і гэта рашаючае) кіраўніцтва, узмацненьня работы ў нізоўцы на аснове рэалізацыі шасьці ўмоў т. Сталіна. Рэалізацыя рашэньняў зьезду паляўнічай каапэрацыі і паляўнічага камітэту дае для гэтага неабмежаваныя магчымасьці.

Таварыства павінна зараз-жа разгарнуць работу па ўпарадкаваньні паляўнічай гаспадаркі (у гэтым напрамку па віне таварыства ня зроблена нават падрыхтоўчай работы ў выглядзе дасьледваньня фауны раёну).

Рашуча павінна быць узмоцнена барацьба за кадры, за моцны бальшавіцкі актыў у брыгадах. Таварыства мае значную партыйна - камсамольскую праслойку, але яна ў моц „занятасьці на іншых працах" (пустая агаворка!) зьяўляецца якраз пасыўнай у таварыстве. Абсалютна недапушчальны факт.

Партыйна-камсамольская праслойка павінна быць авангарднай, непасрэдна ажыцьцяўляючы партыйнае кіраўніцтва масамі арганізацыі.

За сапраўдную перабудову работы!—вось лёзунг, які павінен ажыцьцявіць Слуцак на аснове рашэньняў IX зьезду паляўнічай каапэрацыі і паляўнічага камітэту.

**М. Белазор.**

# СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ

... Дасьціпны сакратар з гураганнай хуткасьцю перабірае дзесяткі папак. Яго ўрачыстая ўсьмешка неадрыўна ад звонкага шэлесту папер. Рост арганізацыі?.. Папка зводак раскрываецца ў руках Гуткоўскага.

— 400—гэта сёньня.

— 316—гэта на 1 ліпеня.

Скромна абыходзячы выключныя дасягненьні Стара-Дароскага таварыства ў галіне росту, Гуткоўскі ўжо пералічае іх па сацыяльнаму складу. І зьдзіўленыя, і жадаючыя разьведаць „сакрэт" перамог па Старадароску, вы чапляецеся за гэтых 400, вамі авалодвае ўрачыстасьць сакратара...

— Колькі-ж было ў мінулым годзе?

Хвіліна маўчаньня. І раптам на вашу галаву выліваецца вушат ледзянай... куды там! — гармата рвецца над вашай галавой:

— 512!

Так нечакана раскрываецца сакрэт. Больш сотні паляўнічых на Старадарошчыне па чарговай перарэгістрацыі гуляе на воўчых правох.

Сумная гісторыя...

Урачыстая ўсьмешка гасьне на вуснах сакратара. Ні то сумны, ні то гумарыстычны настрой авалодвае ім.

— Рэгіструем год: па чалавеку ў дзень. Думалі да міліцыі зьвяртацца: мо' яна дапаможа... Куды там з нашымі сіламі супроць сотні браканьераў? У нас праўленьне складаецца з двох сяброў...

— ?!..

— Ліквідавалася рэвізійная камісія...

Ня гледзячы на сьцюжу ў пакоі камгасу, дзе зьмяшчаецца праўленьне таварыства, вас прабірае сёмы пот. На старонках вашага блёкноту запісана:

Старыя Дарогі. Лістапад.

Работа Старадароскага таварыства паляўнічых развалена. Арганізацыя, яднаючая 400 чалавек, існуе літаральна толькі па паперы. Як раён ня ведае месцазнаходжаньня таварыства, так сельсаветы ня ведаюць сваіх ячэек (—яны ў нас дзікія, — кажа старшыня Нова-Дароскага сельсавету,—з ліхтаром шукайце, ня знойдзеце). Мінулыя перавыбары ячэек у радзе месц сарваны. Сарванымі аказаліся перавыбары праўленьня райтаварыства,—якое аналёгічна становішчу арганізацыі, — існуе таксама на паперы. У прэзыдыуме праўленьня засталося 2 таварышы. Астатнія разьехаліся і ў моц таго, што 4 пленумы праўленьня былі сарваны, прэзыдыум да гэтага часу не папоўнены.

У бягучым годзе адбылася толькі адна рэвізія таварыства ў пачатку году. Праўленьне засталося канчаткова без кантролю, старшыня-ж рэвізійнай камісіі зьбег невядома куды...

Лішняе—канстатаваць адсутнасьць у таварыстве якой-бы там ня было арганізацыйна-масавай, палітычна-растлумачальнай работы.

Вынік—зрыў загатовак. 67 проц. выкананьня гадавога пляну па пушніне, 12 проц. па мехсыравіне, 5,9 проц. па лектэхсыравіне, — і так да адзінак і дзесятых доль процантаў, якія так акуратна падлічаны і падшыты...

Сумная гісторыя...

Арганізацыя без галавы, галава без арганізацыі. Ды і галавы па сутнасьці няма. Галава тав. Гамава, загадчыка камгасу — у рахунак ня ідзе. Ёй не да гэтага. Дзе там да нейкага саюзу паляўнічых і... 150 рублёў, якія штомесячна прыемна шалясьцяць у кішэні старшыні (... дазвольце! па сумяшчэньні...), 120 рублёў, што атрымоўвае Гуткоўскі; ня лічачы ўжо крамніка, які грызе гарбузікі і ў дзень калгаснага гандлю—нядзелю, а палове 12 гадзіны зачыняе краму. Глупства!

У кішэні Гамава ляжаць думкі паляпшэньня працы праўленьня. Колькі месяцаў тав. Гамаў намагаецца абгаварыць гэтую справу на райкоме... Мяшае нешта. Колькі раз ён ставіць пытаньне перад Белкахотсаюзам. Маўчыць Белкахотсаюз. Ціха прыяжджалі і яшчэ цішэй ад'яжджалі яго інструктары...

Зачыняюцца апошнія папкі сумных гісторый Стара-Дароскага райтаварыства паляўнічых.

Пэрспэктывы?..

Гуткоўскі саромліва маўчыць. Таварыш Гамаў хапаецца за свае „думкі".

Ды і каторы раз?

Сумнай гісторыі нарэшце павінен прысьці канец. Нікому не дазволена зьдзеквацца над справай барацьбы за моцную, працаздольную паляўнічую каапэрацыю ў Старых Дарогах.

**Паляўнічы.**

# Ачнецеся, падымецеся, дайце хоць знаць аб сабе!

Ужо прайшло звыш 5 месяцаў, як адбыўся IX Усебеларускі зьезд паляўнічай каапэрацыі, на якім у лік членаў і кандыдатаў рэўкамісіі Белкахотсаюзу былі абраны паважаныя таварышы: Мілер, Дрылёнак, Гіткові́ч, Бруякін і Юркевіч.

— І што-ж, вы думаеце, што яна працуе?!

— Няпраўда.

Рэўкамісія на чале з яе старшынёй тав. Мілерам ня толькі ня прымала ніякага ўдзелу ў працы Белкахотсаюзу, але горш таго, рэдкамісія да гэтага часу не правяла яшчэ свайго ніводнага пасяджэньня.

За гэты час рэўкамісія прахлопала цэлы рад важных мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў жыцьцё праўленьнем Белкахотсаюзу, прагляд і санкцыя на правядзеньне якіх неабходна была з боку рэўкамісіі.

Таварыш рэўкамісія! Ачніся і вазьміся за працу, бо тваіго слова і справы чакае паляўнічая маса.

**Дэлегат зьезду.**

Рыгор Сокал

# „Мяне воўк ня зьесьць“

*(Паводле факту в Стара-Дарожскага раёну)*

## Якім засынае

Надзея дасягнуць нязьведанае, ашукаць штосьць загубленае ў прове, прасочыць па сьлядох драпежніка палкую аповесьць яго схovы, сарваць яго з месца, яшчэ больш абнадзеіла Якімавага сына; на твары заірдзела іскарка жаданьня.

Якім ляжыць на палацях, раскінуўшы рукі на бакі ад сябе. Асалода сну авалодала ім да бяскраю. У ёй Якім адчуў сябе вельмі прыемна, і на памяць адна за аднэй пачалі ўзьбягаць думкі аб сёнешняй аблаве на ваўкоў. Ён толькі праз сон пасьпеў мармытнуць сыну некалькі бяссэнсных слоў:

— Сабачку.... павадок... рукавіцу... разьзява...— І сон спыніў магчымасьць валодаць языком, але ня спыніў работы мозгу і думка ў сьне пачала далей асядаць у нязьведаным... Праз сон Якім яскрава бачыць як сын вышаў на двор, сьвіснуў Галасу і разам з ім накіраваўся да Паўлюковай хаты. Яго прыходу ніхто не заўважыў, ды дзе там было заўважыць некага малыша, ростам у аршын з шапкаю. А каля Паўлюковай хаты спрачаліся паляўнічыя:

— Дык каго-ж паставім у цэнтр?

— Па мойму, Рыгора.

— А ці ліха...

А Галас наперадзе Сьцяпана, як і заўсёды, лёгка, не сьпяшаючы, увесь час ня зводзячы сваіх вачэй з Сьцяпанавых, пакручваў хвастом па беленькім сьняжку.

— Можна і Рыгора. Толькі ў дапамогу Сьцяпана.

— А дзе-ж сам Якім? А хто тады адказны?

— Табе Сьцяпан дапаможа, як здароваму рожа.

— Але ўсё-ж,—настойваў адзін з загоншчыкаў.

Ніхто з усёй ячэйкі ня мог так хітра і лоўка найці і ашукаць драпежніка, перацяць яго ход і стаць на цэнтральным пярэсмыку, як Рыгор, яго дасьціпнасьці зайздросьцілі паляўнічыя; Рыгор у хадзе напорысты, з няўхільнай бязьлітасьцю зорка сочыць за зьверам і, як бы цяжка ня было, ён пасьля загонкі выглядае ўсё такім-жа моцным і бадзёрым. Пасьля доўгіх спрэчак Рыгора з Сьцяпанам прызначылі цэнтравымі, а загоншчыкі пашлі без адказнага.



Рыгор з Сьцяпанам на аблаве...

Якім пры развароце думкі аб Рыгоравай спрытнасьці (Якім таксама зайздройсьціў Рыгору) аж перавярнуўся на другі бок, моцна сьцяў зубамі... і спаў далей.

А аблава такі пачалася без Якіма.

Нечая маленькая сабачка, відаць толькі першы раз вышла на паляваньне, падкідваючы азадак, праз хмызьнячок выскачыла на паляну, наткнулася на сьлед і, вінавата віляючы хвосьцікам, натапырыўшы вушы, вярнулася назад.

Бывалы Галас аглядваючыся бег за Сьцяпанам, пасьля раптам спыніўся, выцягнуў уверх галаву і пацягнуў супроць ветра.

Рыгор, а поруч з ім і Сьцяпан, працiскаліся праз густы ельнік, толькі з другога боку, да гэтай самай паляны. Сьцяпан заўважыў Галасаву стойку і ўскінуў стрэльбу на локаць. Спакойным кіўком правае рукі Рыгор спыніў палкія парываньні Сьцяпана.

— Ідзі лепей аддыхнем каля гэтага пянёчка.

— А есьці?! Ён-жа тут недалека...

— Нашто. Ён сам да нас прыдзе.

Пануры пяньчучок на ўскраіне лесу, абсыпаны зьверху сьнегам, нагадваў нешта страшнае.

Галас, абягаючы паляну, наткнуўся на нечы сьлед, трывожна забрахаў і кінуўся да пяньчука, але тутжа адразу пераменіў ход і, павёўшы носам па паветры, пабег у левы бок. Потым яшчэ некалькі разоў агляніўся на паляну, яшчэ з большым удыхам павёў носам і пацягнуў у гушчар.

Рыгор ужо не з дагадкаю, а ўпэўнена ішоў да гэтага месца.

— Мы тут будзем сядзець і ўсё.

— А хіба добра тут?

— Вось убачыш. Воўк пашоў усторч загоншчыкам і ён абавязкова будзе сюдэю ісьці назад.

Схрабустаны хмызьняк, вялікія лапіны з воўнаю ад авечак яшчэ больш ўпэўнілі Рыгора, што тут нядаўна быў ён сам...

— А як ступана... мабыць некалькі... разам... эх нядбайнасьць,—пранеслася ў галаве Рыгора, аглядаючы котлішчы.

— Гэта ваўкі,—выпаліў запыханы Сьцяпан.—Бач, колькі ступалі.

— Стой ты, стракач,—перапыніў Сьцяпана Рыгор, разглядаючы адно з котлішч.

— Воўк, каб я жыў, што гэта воўчыя сьляды.

— Вядома, не карова, галава ты ялова. Давай лепей абгледзім усё наўкол, а ня крычаць.

Сабакі пачалі трывожна кружыцца ля ўскраіны лесу.

— Сьцёпка, лепей за сабакамі сачы, а то парвуць.—І Рыгор абгледзеў добра ўсю мясьціну, супакоіўся і накіраваўся проста да пяньчука.

Сьцяпан адбег крыху на бок, адазваў сабак і вярнуўся назад да Рыгора.

— Перакурым, Сьцёпка.

— Давайце, дзядзька Рыгор.

Зьвярнулі па вялікай цыгарцы, зацягнуліся добра па першаму разу, сьмялей перавялі дух і паціху пачалі апавядаць аб гэтых самых ваўкох і арганізатарах воўчых аблаў у калгасе „Чырвоны франтавік“.

Якім у гэты час, там у хаце на палацях заеньчыў праз сон, адвярнуўся дагары і зноў моцна за-

хроп. Твар яго наліўся радасьцю ўдалага і шчасьлівага паляўнічага пасьля спрытнага стрэлу ў драпежніка. І разам чырвонай істужкай прабегла па галаве адважная і сьмелая мысьль, што ён воўка не баіцца, ды яму і няма чаго баяцца яго. Ён трапны паляўнічы. Яго воўк ня зьесьць!

Якім салодка пацягнуўся, закінуў рукі за галаву і апусьціўся яшчэ вальней у асалоду сну.

І ў сьне бачыць, як:

— „Я яшчэ паўней,—здаецца Якіму,—наліўся і ўсьведамленьнем адказнасьці пагражаючай небясьпекі і ўсё тым-жа духам адвагі і жаданьнем як-бы сабе там ня было запоўніць гэты, так звычайна пачаты дзень. Мала таго, што я першым наткнуўся на сьлед зьвера і пашоў адзін за ім—мала гэтага! Я хачу запоўніць гэты дзень нечым яшчэ больш нязвычайным, новым і хвалюючым!

— „Я пашоў сьледам. Прабіраюся праз гушчарню,—гальлё сячэ ў твар,—праз сьнегавыя гуры і глыбокія западзіны. Я наперад адчуваю асалоду, як гэты сьлядок прывядзе мяне да геройскага ўчынку"...

Якіму соладка сьпіцца, а Рыгору няёмка сядзець на пяньчуку і чакаць нямаведама чаго.

Лес заціх. Толькі калі-ні-калі пракружыць крумкач над галовамі, застракоча ў кустох сарока, нешта дзесь далёка хрусьне,—лес зноў аддаецца глыбокаму зімоваму сну.

Далёка ўзарваўся сабачы брэх—разрэдзіў паветра і зноў немая цішыня.

Рыгор апусьціў галаву і ў глыбокай задуме аставаўся сядзець, пакуль Сьцяпан не зварушыў яго думкі.

— Нешта, нічога ня чуваць...
— Чаго?
— Мабыць загоншчыкі далёка зайшлі.
— А па-мойму яны зусім пазад пашлі...
— З якой прычыны?
— З імі нікога ня было, хто-б цікавіўся справай аблавы на ваўкоў.

Сьцяпану горна стала, што яму—сыну Якіма—трэба зносіць такі зьдзек над сабой. Гэта-ж выбрана такая ўдалая мясьціна, папаў у цэнтравыя з Рыгорам—самым лепшым паляўнічым ячэйкі і раптам такая нечаканасьць...

— Прыдзецца здымацца і ісьці дадому,—і Рыгор падняўся з пяньчука.

Гэтыя словы громам празьвінелі ў вушох Сьцяпана. Ён ня ведаў у чым прычына зрыву аблавы і не асьмеліваўся запытаць больш падрабязьней другі раз у Рыгора.

Так і пашлі дадому Рыгор з Сьцяпанам па асьнежаных палёх між хмызьнякоў, пацiраючы акрэпшыя рукі.

Якім соладка сьпіць і яму далей рысуецца плян геройскага ўчынку:

— „Цяпер я ўжо яскрава ўяўляю сабе, як я нечакана натыкаюся на воўчае логава. У логава нешта мятусіцца... Відна шэрая лабаціна... Я асьцярожна падкрадаюся да логава. Вось спакойна ўзводжу мушку на лабастую галаву, стрымліваю дыханьне, дакладненька стаўлю мушку на складцы, на крутым ілбе зьвера. Націскаю на спуск, выстрэл разрывае нямую цішыню леса. Воўк закрывае бліскучыя вочы і, расьцягнуўшыся, апускаецца ў логава, пакідаючы на сьнезе чырванаватую дарожку крыві".

Неспадзяваны шум каля хаты абудзіў Якіма ад салодкага сну.

— Таварыш Вілюха, пойдзем складзем акт. У нас ваўкі задушылі 12 авечак,—зьвярнуўся да Якіма, як члена сельсавету, старшыня калгасу „Чырвоны франтавік".

## Якім абудзіўся

— Яшчэ чаго ня было. От ліха на іх,—прабурчэў сабе пад нос Якім.—Я-ж сказаў, што трэба зрабіць аблаву, а яны...

— А чаму-ж ты не пашоў? Цябе-ж выдзялілі адказным за аблаву?

— Што, хіба я адзін у гэтым вінен?—Якім хутка ўскінуў на плечы кажушок, вышаў на вуліцу і накіраваўся да месца злачынства драпежнікаў.

На бліскуча белым адзеньні ўзгорка відна была шэрая груда. Сонца, выныраючы з-за лесу, аблівала сваімі праменямі разарваныя чырвоныя акрайкі авечак.

— Чыя-ж віна, Якіме, а?—грозна запытаў Рыгор.—Аблава сарвана табою... ваўкі парвалі авечак... ты спаў...

Сьцяпан шчыльней пацiснуўся да Рыгора і скоса паглядаў на бацьку. Яму горна было за яго, але перамогшы горнасьць, Сьцяпан зьвярнуўся да бацькі.

— Ты, мабыць, думаў, што цябе ваўкі не зачэпяць? Аж вышла—бачыш,—ён паказаў пальцам на разарваную груду авечак. У гэтым шмат твае віны...

Устурбаваны Якім асьцярожна апусьціўся на паваленае дрэва і пачаў пісаць акт, аглядаючы наўкол.

Усё той-жа малюнак. Мужны ельнік і хвойнік, абсыпанае сьнегам гальлё. Усё таксама, як і раней іскрыцца ўпэўненасьць на твары Рыгора. Толькі сам Рыгор стаў цяпер яшчэ больш суровы і стражэйшы. І нават у руках Рыгора, у руках, што трымаюць зараз стрэльбу—адчуваецца непахісная строгасьць і згрупаванасьць думак.

Ссунуўшы шапку з ілба на патыліцу, Рыгор зьвярнуўся да Якіма:

— Не забудзь прыпісаць у акце, што з прычыны зрыву аблавы ваўкі рвуць нашы калгасныя авечкі,—і пашоў у бок калгасу „Чырвоны франтавік".—І па чыей віне, таксама не забудзь прыпісаць.

Па дарозе ў Рыгора ладзіўся плян арганізацыі другой аблавы.

У кроках дваццаці ад хаты Сьцяпан нагнаў Рыгора. Яго твар расьцьвіў новай радасьцю, а разам і баязьлівасьцю, як-бы ён здалёк убачыў драпежніка, які ідзе проста на яго.

— Мы гэтай справы так не пакінем?!
— Якой?
— Заўтра пойдзем на другую аблаву.
— А другая...

Сьцяпан цяжка ўздыхнуў і апусьціў галаву. Яму горна было, што бацька яго аказаўся зрыўшчыкам аблавы і, што ў гэты час здарылася такое няшчасьце, але не трацячы ўпэўненасьці, адказаў:

— На гэта ёсьць параграф і пункт устава паляўнічых, а калі патрэбна будзе, то прыпішуць параграф і пункт з другога ўстава.



Вартуе здабычу.

# Неабходна пераглядзець склад паляўнічых заказьнікаў

*(У парадку абгаварэньня)*

У Асіповіцкім раёне яшчэ ў 1928 годзе створан заказьнік з забаронай паляваньня на ўсю дзіч тэрмінам на 5 год. Заказьнік складаецца з 3-х дач: Вязкая, Жарноўская і Вязоўніцкая.

Ужо ў час стварэньня заказьнік меў вельмі нязначныя спрыяючыя ўмовы для разьвядзеньня ўсякай дзічы. У сучасны момант ён страціў і тыя ўмовы, якія меў раней.

Праз увесь цэнтр заказьніка ў 1931 годзе пракладзена ляжнёвая дарога, вакол якой у сучасны момант праходзяць канцэнтраваныя рубкі лесу (склад дрэвастану ў гэтых дачах быў поўнасьцю сьпелы). Ад шматлюднасьці і масавай рубкі некаторыя віды дзічы і зьвера, якія раней трымаліся тут, пакідаюць заказьнік і перабіраюцца ў суседнія дачы (прыкладна Брыцалаўская дача і інш.), дзе больш спакайней для іх.

Прыродных умоў для разьвядзеньня ўсіх відаў дзічы і зьвераў у гэтых дачах няма. Гэтыя тры дачы складаюцца з лісьцьвяных парод, у якіх ёсьць толькі такія віды дзічы і зьвера, як заяц бяляк і русак, рабчыкі, ваверкі, рысь, ваўкі і інш. малазначныя віды.

Добра ведаючы месцазнаходжаньне і ўмовы ўсіх дач і вучасткаў Асіповіцкага леспрамгаса, я лічу больш мэтазгодным замест існуючага заказьніка ў Асіповіцкім раёне стварыць два заказьнікі ў дачах:

1) Брыцалаўскай і Сьвіслацкай, якія ўваходзяць у Гарожкаўскі і Кастрычніцкі лесавучасткі Асіповіцкага леспрамгаса з забаронай паляваньня на ўсю дзіч, бо прыродныя ўгодзьдзі гэтых дач спрыяюць разьвядзеньню ўсякай дзічы і зьвера;

2) другі заказьнік стварыць у Цэльскай дачы, Цэльскагу лесавучастку Асіпавіцкага леспрамгасу з забаронай паляваньня на дзікіх коз, глушцоў і цецярукоў, бо прыродныя ўгодзьдзі Цэльскай дачы найбольш спрыяюць разьвядзеньню гэтых відаў дзічы, якая маецца ў значна большай колькасьці чым у другіх дачах Асіповіцкага леспрамгасу.

У існуючым заказьніку гэтых відаў дзічы ніколі ня было. Не стварыўшы адпаведных заказьнікаў Асіповіцкі раён добрай паляўнічай гаспадаркі мець ня будзе.

Думаю, што таварышы паляўнічыя Асіповіцкага раёну абгавораць закранутае мною пытаньне і выкажуць сваю думку праз часопіс „Паляўнічы Беларусі“.

Паляўнічы **І. Ганковіч.**

# П а з а с л у г а х *(Барысаўскі раён)*

На тэрыторыі раёну існуе трусаводная гаспадарка—саўгас „Круглае“, гаспадаром якога зьяўляецца праўленьне Барысаўскага райтаварыства паляўнічых.

На гаспадарцы існуе паўнейшая злачынная безгаспадарчасьць; трусы кормяцца несваячасова, не вядзецца ніякага вучоту выдачы кармоў, сярод працаўнікоў трусятніку існуе поўная абязьлічка, працаўнікі не адчуваюць адказнасьці за сваю працу. Вольская, як спэцыялістка, зусім ня цікавіцца работай трусятніка. Па два-тры тыдні зусім не зьяўляецца на працу.

Ня гледзячы на тое, што Белкахотсаюзам неаднаразова давалася рад дырэктыўных указаньняў аб палепшаньні працы на трусятніку, але райтаварыства, добра ведаючы, у якім становішчы знаходзіцца саўгас, ня прымала адпаведных мер да зжыцьця гэтых ненармальнасьцяй. У выніку гаспадарка прыведзена да распаду. Замест таго, каб прыплод стада за час існаваньня павялічыць да 2 тысяч трусоў (па пляну), дык з маючыхся 800 на сёнешні дзень засталося ўсяго 360 трусоў і гэтыя амаль усе хворыя. Частка трусоў загінула ад дрэннага догляду, частка раскрадзена, а частку „спэцыялістка“ Вольская скарыстала для свае патрэбы.

Надалей гэтым „дзельцам“ ня прыдзецца больш весьці сваёй шкоднай працы на трусятніку. Яны атрымалі плату па заслугах. Старшыні райтаварыства паляўнічых тав. Сіляўскаму прэзыдыумам праўленьня вынесена вымова і здымаецца з працы, трусаводка Вольская таксама здымаецца з працы, а справа яе перадаецца сьледчым органам для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці, як шкодніцу, якая імкнулася разбурыць трусаводную гаспадарку.

Для палепшаньня становішча працы абнаўляецца ўвесь абслугоўваючы пэрсанал, у тым ліку і загадчык гаспадаркі тав. Бабіцкі, які ня справіўся з ускладзенымі на яго абавязкамі і дапусьціў трусаводны саўгас да поўнага распаду.

**П.**

# Аздаравіць работу Райтаварыства *(Лагойскі раён)*

Праца таварыства паляўнічых ідзе самацёкам. Кіраўніцтва ячэйкамі з боку праўленьня таварыства не адчуваецца. За ўвесь час зьбіраўся толькі адзін агульны сход паляўнічых і той прайшоў дрэнна, бо значная частка сяброў убачыўшы, што кіраўнікі т-ва ходзяць як заспаныя, разьехалася дамоў. Інструктажу ячэйкам як жывога, так і пісьмовага няма.

Адгэтуль недавыкананьне плянаў усіх відаў загатовак, зрыў фінпляну.

Горш усяго кульгае арганізацыйны бок.

Паляваньне пачынае хто як хоча. Аб гэтым ужо шмат разоў пісалася на старонках часопісі „П. Б.“, але наша таварыства нават сваім органам друку ня цікавіцца, а таму і ня ведае, што ў ім пішацца. Адгэтуль вынік, што на зьмешчаныя артыкулы яно ня можа рэагаваць.

Я асабліва хачу адзначыць апартуністычныя адносіны таварыства да друку, аб якім яно нават не заікнецца. Абавязак кожнага праўленьня намагацца давесьці часопіс „Паляўнічы Беларусі“ да кожнага паляўнічага.

**Я. Сапрык.**

Ад рэдакцыі: Аб дрэннай працы Лагойскага т-ва паляўнічых зьмяшчаецца ня першы артыкул. Мы спадзяемся, што праўленьне Белкахотсаюзу зробіць адпаведны вынік.

# Дзіўныя справы, таварыш Сячко!

У Лельчыцкім райтаварыстве паляўнічых пануе ўраўнілаўка ў забесьпячэньні паляўнічых боепрыпадамі. Шрот, які атрымоўвае крама таварыства, выдаецца пароўну на кожнага паляўнічага, што падрывае загатоўкі пушна-мехсыравіны. Бывае і так, што з крамы даюць шрот добрым... знаёмым, хаця яны і не здаюць сыравіны. А сыстэма — 200 грам шроту кожнаму паляўнічаму на зімні сэзон і кропка.

У выніку таварыства паляўнічых зрывае загатоўку пушна-мехсыравіны. Таварыства і надалей астаецца на чорнай дошцы, дзякуючы галавацяпству сваіх кіраўнікоў.

Дзіўныя справы творыць праўленьне.

„Паляўнічы Беларусі" зьмяшчаў матар'ял, што Штукар арудуе ў праўленьні. Штукара з крамы зьнялі ды пасадзілі працаваць у якасьці рахункавода.

Марынуецца справа трусагадоўлі. Таварыства набыло сродкі для трусагадоўлі. Кожны паляўнічы ўнёс 3 руб., а трусятніка няма, хаця ўмовы для гадаваньня трусоў ёсьць.

Таварыства ня думае нічога аб кроўнай сабакагадоўлі. Кінуўшы ўсе справы, старшыня праўленьня таварыства Сячко едзе на некалькі дзён лавіць рыбу, а арцель рыбаловаў працуе з рук вон кепска.

Некалькі раз таварыства арганізоўвала аблавы і некалькі разоў аблавы зрываліся, бо таварыства не дамаўлялася наконт аблавы з мясцовымі органамі ўлады. Так, у вёсцы Каросьціне аблавы зьбіраліся два разы, паляўнічыя білі ногі за 20—30 кілёмэтраў, у той час, калі тав. Сячко нават і ня ведаў, што зрабіць аблавы ў Каросьціне нельга.

А ваўкі арудуюць. У вёсцы Дуброва ваўкамі зарэзана 5 галоў буйнай жывёлы, 8 штук авечак, 5 штук сьвіней, таварыства гэта не датычыцца, яно сьпіць спакойна.

У раёне шмат браканьераў, а барацьбы з імі ніякай не вядзецца. Між тым, у раёне Сімоніч—Дуброва—Данілевічы выкрыты гурты дзікіх сьвіней і коз, між Каросьцінам і Вуборцкай Рудняй зьявіліся ласі. Аднак, гарантыі, што яны ня будуць зьнішчаны браканьерамі — няма. У нас і заказьнікі нават не ахоўваюцца. Парушаюцца і тэрміны паляваньня і межы, бо масава-растлумачальная работа сярод паляўнічых адсутнічае.

Лельчыцкае таварыства павінна рашуча перабудаваць сваю работу! **К—і.**

## ТАЛАЧЫНСКІЯ ДЗЯЛЬЦЫ

У час абсьледваньня становішча Талачынскага райтаварыства паляўнічых выяўлена поўная бязьдзейнасьць праўленьня.

Вось „узорныя" паказчыкі працы праўленьня райтаварыства: адсутнасьць сталага кіраўніцтва нізавымі ячэйкамі; брыгады арганізацыйна не аформлены і паляўнічыя ўяўляюць з сябе неарганізаваную масу, стаяць у баку ад усіх палітычна-гаспадарчых пытаньняў, правадзімых на вёсцы партыяй і савецкім урадам.

Праўленьне райтаварыства ня лічыць сваім абавязкам выкананьне пляну па загатоўцы пушніны, мехсыравіны і інш. Плянавыя заданьні на праўленьні райтаварыства і актыву паляўнічых не абгаварваюцца, і зусім не даведзены да кожнага паляўнічага. У выніку за II і III кварталы плянавыя заданьні па загатоўцы зусім сарваны, ёсьць выпадкі, дзякуючы бязьдзейнасьці райтаварыства, што прадукцыя, здабытая паляўнічымі, збываецца спэкулянтам (Круглянскі с-с).

Справы Райтаварыства знаходзяцца ў самым хаотычным становішчы і раскіданы па ўсіх кутках мястэчка Талачын. Крама райтаварыства і маючыся тавар знаходзяцца таксама ў надзвычайна дрэнным выглядзе і яшчэ горш таго, што крама бывае адчынена ў тыдзень ня больш 2—3 разы на 2—3 гадзіны, і паляўнічыя сваю прадукцыю збываюць на прыватным рынку.

Дырэктывы Белкахотсаюзу не праводзяцца ў жыцьцё, праўленьне райтаварыства ігнаруе іх.

У акце абсьледваньня райтаварыства (9-V—32 г.) інструктарам Белкахотсаюзу былі дадзены канкрэтныя і практычныя ўказаньні, якім парадкам палепшыць становішча працы райтаварыства, але да гэтага часу праўленьне райтаварыства так аднеслася, што нават не палічыла сваім абавязкам прагледзець яго, і гэты акт чынна ляжыць у папках таварыства.

Такое становішча ў далейшым нецярпіма. Яно прывядзе да поўнага разлажэньня паляўнічую арганізацыю Талачынскага раёну. **П.**

## ЗАГАТОЎЧЫЯ ЦЭНЫ*)

**на зімовую пушніну ў сэзон 1932-1933 году, цэны ўстаноўлены на першы гатунак і ўведзены з 1 верасьня 1932 г.**

| №№ п. п. | Назва відаў зьвера | Цана руб. | Цана кап. |
|---|---|---|---|
| | **Пушніна** | | |
| 1 | Барсук | 4 | 50 |
| 2 | Вавёрка | — | 80 |
| 3 | Воўк лясны | 45 | — |
| 4 | Воўк стэпу | 30 | — |
| 5 | Гарнастай | 4 | 75 |
| 6 | Заяц бяляк | — | 50 |
| 7 | Заяц русак | — | 55 |
| 8 | Куніца мяккая | 45 | — |
| 9 | Куніца горская | 35 | — |
| 10 | Ласка | — | 70 |
| 11 | Ліс іца | 30 | — |
| 12 | Норка | 20 | — |
| 13 | Рысь | 50 | — |
| 14 | Тхор горны | 7 | — |
| | **Мехсыравіна** | | |
| 1 | Трус белы вел. | 5 | — |
| 2 | „ шыншыла | 5 | — |
| 3 | „ венскі гал. | 4 | — |
| 4 | „ шампань | 4 | — |
| 5 | „ беспародн. | 3 | — |
| 6 | „ пухавы | 2 | 50 |
| 7 | Сабака | 3 | 50 |
| 8 | Кошка хатн. | 2 | 50 |

Старшыня праўленьня Белкахотсаюзу Волдынь. Адказны выканаўца Данілаў.

*) Ад рэдакцыі: у № 9 часопісі „Паляўнічы Беларусі" па тэхнічнаму недагляду рэдакцыі ў расцэнках на зімовую пушнамехсыравіну ў сэзон 1932-33 г. няправільна паказаны цэны на некаторую пушніну, а таму надалей неабходна карыстацца расцэнкай, зьмешчанай у гэтым нумары часопісі.

# Догляд і кармленьне трусоў

Трусаводзтва ў БССР, як і ў другіх рэспубліках Савецкага саюзу, зьяўляецца новай галінай народнай гаспадаркі. Значэньне трусагадоўлі ў справе палепшаньня рабочага снабжэньня горада і вёскі патрабуе рашучага пералому ў тэмпах яе разьвіцьця.

Кожны калгасьнік і рабочы саўгасу, кожны паляўнічы павінен добра ведаць карысьць трусагадоўлі, як сродка харчовага забясьпечаньня і як сродка эканамічнага скарыстаньня харчовых і кармавых адкідаў гаспадаркі.

Пасьпяховае разьвіцьцё трусоў залежыць ад удалага падбору вытворніка, бо ад яго перадаюцца патомству тыя ці іншыя якасьці.

Вытворнікі, выбраныя з маладняка, павінны дапускацца да злучкі ў наступным узросьце: буйных пород: самкі ў 10 мес., самцы ў 11—12 мес.; сярэдніх пород: самкі ў 8 мес., самцы у 9 мес.; дробных пород: самкі ў 6—7 мес., самцы ў 8 мес.

Цяжарнасьць самкі працягваецца 28—30 дзён. У час цяжарнасьці самцы неабходна даваць больш спажыўны корм. Прыкладны дзённы рацыён для цяжарнай самкі сярэдняга жывога весу 3 **кг** наступны: сена 100 **гр**, аўса 30 **гр**, вотрубяў 10 **гр**, караньплодаў 80 **гр**. За два, або тры дні да акота самцы неабходна даваць чыстую ваду. Ваду неабходна зьмяняць па магчымасьці часьцей. Трусіха можа прывесьці да 12 трусят, трусята родзяцца сьляпымі і бяз шэрсьці. Трусята знаходзяцца пры матцы да паўтарамесячнага ўзросту, пасьля чаго іх адымаюць ад маткі. Трусісе даюць дзён 8 адыхнуць, пасьля чаго яе зноў пускаюць у злучку.

Пры правільным і добрым кармленьні ўбойная вага мэтэзіраванага труса ў 4-х месячным узросьце будзе каля 2 **кг**. Трымаць далей нямэтазгодна, так як патрабуецца значна большае капітала-ўкладаньне на будаўніцтва клетак, больш выдаткаў на кармы.

Інтэнсыўны рост труса дробных і сярэдніх парод ідзе да 5-месячнага ўзросту, а потым зьмяншаецца і прырост мяса не апраўдвае тых выдаткаў, якія будуць утварацца далейшым утрыманьнем іх у гаспадарцы.

Ніжэй прыводзіцца прыкладны вытворчы плян для гаспадаркі, якая трымае трусоў на мяса:

| Злучка | Акот | Адыманьне | Забой | Убойны узрост |
|---|---|---|---|---|
| 1-III | 1-IV | 15-V | 10-VIII | 4 м. 10 дзён |
| 20-V | 20-VI | 10-VIII | 1-XI | 4 „ 10 „ |
| 14-VIII | 15-IX | 1-XI | 25-I | 4 „ 10 „ |

Такім чынам адыманьне другога акоту ўтвараецца тады, калі забіваецца маладняк першага акоту, а адыманьне трэцяга акоту, калі забіваецца другі.

Дзённыя кармовыя нормы для маладняка сярэдніх парод ад ўемнага ўзросту да $2^1/_2$ м. наступныя: сена 40 **гр**, аўса 20 **гр**, вотрубяй 10 **гр**, караньплодаў 25 **гр**, солі ½ **гр**. Для маладняка, узросту ад $2^1/_2$ м. да 4—5 м.: сена 50 **гр**, аўса 25 **гр**, вотрубяй 15 **гр**, караньплодаў 40 **гр**, солі $^1/_2$ **гр**. Акрамя гэтага трусам неабходна даваць гальлё бярозы, асіны, вярбы, івы, ядлоўца і інш. Мэтазгодна і нават неабходна ў кармавую дачу для трусоў уводзіць наступнае: сьмяцьцёвыя травы: палын, малачай, адуванчык, крапіву і падарожнік; трусы іх з ахвотай паядаюць і бяз усякіх перашкод для арганізму, а наадварот, напрыклад, палын трусамі паядаецца як лекавая трава ў той час, калі яны хварэюць на страўнік (ганячкай).

Усе кармы, якія даюцца трусам, павінны быць добраякаснымі і чыстымі. У кармах не павінна быць ні пылу, ні гразі. Мерзлых кармоў ні ў якім разе ня можна даваць трусам. **А. К.**

# Крапівенскія справы

*(Аршанскі раён)*

— Трусагадоўляй займаецеся?

— Займаемся...—Так адказваюць работнікі Аршанскага райтаварыства Саюзу Паляўнічых і далей ні слова аб рабоце. Сваёй работай наогул яны давялі трусагадоўчую гаспадарку да поўнага развалу. Загадчык гаспадаркі тав. Кулакоў зусім ня цікавіцца справай палепшаньня яе. Ен толькі добра ведаў, што ў канцы месяца патрэбна выпісаць зарплату на 500 рублёў для супрацоўнікаў, а што коняй няма чым карміць, трусы дохнуць—гэта яго не датычыцца.

Здавалася, маючы плошчу для гаспадаркі ў 35 **га**, з яе пахаці 28 **га**, льга забясьпечыць кармамі і трусоў і коняй.

Замест таго, каб засеяць усю плошчу ў 28 **га**, загадчык гаспадаркі засяе толькі 10 **га**, а астатнюю аддае суседнім калгасам, сялянам-аднаасобнікам, а частку зусім кідае пуставаць. Гэтыя 10 **га**, хоць і асвоены, але да таго дрэнная апрацоўка глебы, няўменьне і нядбайныя адносіны загадчыка гаспадаркі—прывялі да поўнага зьнішчэньня ўвесь ураджай.

Трусы адзін за адным пачалі здыхаць. Тав. Іваноў хоць і ведаў аб гэтым, але не паклапаціўся дапамагчы гаспадарцы ў ліквідацыі прарыву, знайсьці вінаватых і прыцягнуць да адказнасьці. А яму, як старшыні праўленьня райтаварыства саюзу паляўнічых трэба было паклапаціцца. Тав. Іваноў толькі ў час агляду гаспадаркі дазнаўся, што тут так дохнуць трусы і ў гэты-ж дзень было знойдзена 70 штук дохлага маладняка.

Загінулі бедныя трусянята без ведама Кулакова і Іванова, але не загіне справа ў сьледчых органаў. А калі яе яшчэ няма ў іх, дык Белкахотсаюзу трэба пасьпяшацца і падрыхтаваць яе.

На сёнешні дзень гаспадарка ліквідавана выключна з-за адсутнасьці гаспадарчага вока т. Кулакова і няўмелага кіраўніцтва ею з боку т. Іванова.

І пастановай Аршанскага райземаддзелу трусаводчая гаспадарка Белкахотсаюзу перадана Артдыву.

**К-і.**




таксы, вызначыш месца, дзе атакаваны зьвер.

Паляваньне гэта працягваецца да вялікіх марозаў, пакуль не прамерзла глыбока зямля і ня лёг тоўстым пластом сьнег.

Каб не адводзіць лісіц ад нор, запхнутыя норы патрэбна прывесьці ў належны парадак.

**Паляваньне з таксай.** Паляваньне з таксай адносьці да паляваньня, у поўным сэнсе гэтага слова, нельга. Таму, паляваньне гэта і ня мае шырокага распаўсюджаньня сярод паляўнічых ня толькі Беларусі, але і наогул у СССР. Па гэтым, вядома, прычынам і такса не распаўсюджана і ня ўсім вядома яна з боку яе якасьцяй наогул.

Такса ці ямік (у Польшчы)—адна з найбольш распаўсюджаных сабак у цэнтральнай Эўропе. Гэта парода ўяўляе з сябе карлікавую форму нямецкіх гончых, магчыма, з прымесьцю крыві тэрр'ера. Таксы вельмі разумныя, зразумелыя, паслушныя, маюць добры нюх і настойлівы ў перасьледваньні; патрабуюць ласкавага абыходжаньня і з імі нельга трымацца вельмі строга, бо яны ўпартыя, мсьцівыя, ганарыстыя і крыўдлівыя; у адносіне да другіх сабак яны злосныя, зайздросныя і сварлівыя. Прымяненьне такс вельмі разнастайна: яны замяняюць тэрр'ера, ганчакоў, рэтрывера і хатнюю сабаку; галоўнае іх прызначэньне—паляваньне ў норах на барсукоў і лісіц. Дрэсыроўка такс вытвараецца ў асобных штучных норах з выхадамі, калідорамі, з перакрыжаваньнямі і тупікамі, куды папярэдне пускаецца барсук ці лісіца. Спосаб такі, вядома, прымяняецца толькі месцамі спэцыяльных дрэсыровак, таму ня можа лічыцца як агульнае правіла. Радавы паляўнічы карыстаецца звычайнай абстаноўкай прыродных умоў, г. зн. норамі, з такім-жа посьпехам, калі ня больш. 2—3 лекцыі ў норах са зьверам,—разумная сабака будзе дастаткова падрыхтавана.

Паляваньне з таксай не патрабуе ні лоўкасьці, ні знароўкі, не выклікае напорыстай працы ног, не гарачыць паляўнічую палкасьць тэй высокай тэмпэратурай, якую дае іншае паляваньне. Раніцою, у паўдня, пад вечар, абы калі, узяўшы стрэльбу, паляўнічы накіроўваецца да вядомых нор лісіц. Абсьледваўшы па знадворным адзнакам норкі, паляўнічы застанаўліваецца на адной, са сьвежымі сьлядамі, якія відаць на пяску. Заткнуўшы сумежныя норы, ён выпускае таксу ў намечаную нару. Адпачываючая лісіца ў захавальнай нары, у большасьці вылятае з нары, як толькі насела на яе такса, калі да гэтага ня было заўважана лісіцай вялікай небясьпекі на норах. Таму, падрыхтоўку апусканьня таксы ў нару трэба вытвараць па магчымасьці ціха, а ўпусьціўшы яе, патрэбна стаяць за выхадам (ззаду) нары са стрэльбай напагатове, узьвёўшы куркі.

Хаваючыся ад перасьледваньня сабакі, яна выкарыстоўвае ўсе калідоры, пакуль ня будзе прыціснута дзе-небудзь у тупіку. Нахіліўшыся да зямлі і згрупаваўшы слых, па падземнаму глухому галасу

* * *

Надзвычай хвалюючае паляваньне — паляваньне нагонам па полі. Розьніца паляваньня нагонам па полі ад іншага паляваньня тая, што яна праходзіць увесь час на зроку, патрабуе і добрага веданьня мясцовасьці, і веданьня характара зьвера і яго драбнейшых павадак. Паляваньне нагонам утвараецца пры дапамозе двух, а лепш трох загоншчыкаў на конях, пры глыбокім сьнезе на лыжах.

Трэба не забываць, што ў лісіцы зрок і слых надзвычай разьвіты*), таму, заўважыўшы лісіцу, якая бегае далёка, трэба абмеркаваць добра плян дзеяньняў, каб перахітрыць яе. Трэба абмеркаваць аб яе праўдападобных замерах і вызначыць найбольш магчымы пераход, к'руючыся магчымымі для яе кустамі. Калі сьнег глыбокі і рыхлы, дык трэба прыняць пад увагу, што лісіца выбірае для свайго пераходу плошчы, з якіх зьмяло ветрам частку верхняга сьнегу, а рэштка яго ўшчыльнілася ад руху таго-ж ветру. Такія месьціны сустракаюцца пераважна на больш узвышаных і адкрытых плошчах, нізіны і раўніны, якія зарасьлі хмызьняком, пакрыты больш рыхлым і глыбокім пластом сьнегу.

Выбраўшы сабе нумар, трэба заняць яго, а гэта ня так лёгка ў чыстым полі, калі лісіца даўно ўжо трымае на воку ваш рух, як-бы зусім не заўважаючы вас. Ісьці пеша—аб гэтым і думаць нельга, трэба ехаць. Дзе няма ні кусточка, ні каменчыка, ні мяжы, адным словам ні тэй ні другой заховы, паляўнічы падае з саней у сьнег, з супроцьлеглага боку ад лісіцы. Калі яна рыецца ці займаецца чым небудзь, дык можна ўпаўнена перасоўвацца, ня трацячы часу, але трэба замерці, калі лісіца ўздумае прыпыніцца, як укопаная, і разглядае далячыню ў вашым кірунку.

Калі гэта паляваньне патрабуе ад стралка на нумары асьцярогі, дык ня ў меншай меры прад'яўляецца патрабаваньне і да яго вопраткі. Белы халат мае надзвычайнае значэньне, так як іншая вопратка на белым фоне сьнегу выдасьць вас за нязначнай заховай. Ня трэба таксама забываць схаваць у сьнег ногі, асабліва, калі яны абуты ў цёмныя валёнкі, інакш і белы халат мала прынясе карысьці; халат патрэбна старанна падабраць, асабліва, калі ветраны дзень: полы халата калышуцца, а іншы раз хлопаюць, што можа выдаць засаду і паляваньне будзе сапсута. Ня трэба забываць замаскаваць і шапку, калі яна не па колеру наўкольнай плошчы.

Калі нумар заняты, загоншчыкі накіроўваюцца з двух супроцьлеглых бакоў обадам, абнімаючы кола іншы раз у 3—4 кілёмэтры і больш, а іншы раз і ўсяго з кілёмэтр,—не залежыць ад характара мясцовасьці і ад вялічыні вучастка, на якім лісіца

*) Аб якасьцях лісіцы гл. „Пал. Беларусі." № 10, 1931 г. арт. Лягіна Ф. Рэд.

Цэнтр абада займае трэці загоншчык. Калі заезд утвараецца па цэліку, трэба заяжджаць з флянгаў так, каб лісіца ня бачыла заезду. Калі загоншчыкі ўбачаць, што яны абнялі сваім заездам лісіцу, а адлегласьць ад іх да лісіцы такая, што яны змогуць перасекчы ёй шлях, у выпадку яна зробіць патугу шмыгнуць у бок, флянговыя павінны падацца наперад і, стоячы ў санях, трымаючы лейцы напагатове, павольна пасоўвацца наперад, пасьля атрыманага распараджэньня цэнтравога загоншчыка, сочачы ўвесь час за лісіцаю. Трэба сьціскаць аб'езд так, каб не вымушаць лісіцу ісьці на скоку. Ход лісіцы рысьсю з прыпынкамі, не пакідаючы сваё паляваньне і кірунак яе лагчынамі, засланяючы сябе ад вока едучых загоншчыкаў, забясьпечвае ўжо ў значнай ступені посьпех паляваньня. Загоншчыкі павінны добра ведаць свае заданьні бяз указак і ня толькі ведаць, але і адчуваць. Вока загоншчыкаў увесь час павінна сьвідраваць лісіцу, ня трацячы ні сэкунды, у выпадку яна-б шмыгнула на бок, імкнучыся выйсьці з аб'езду, тады трэба націснуць на лейцы, сьпяшаючы перасекчы яе ход. Зрабіць гэта ня цяжка, калі не правароніць момант, а конь і дарога добрыя, так як лісіца знаходзіцца ў сярэдзіне ад'езду і, значыць, перасекчы яе ход пасьпееш. Калі лісіца спакойна падаецца да наменчанага месца, то загоншчыкі, строга трымаючы паміж сабою патрэбныя інтэрвалы, павольна сьціскаюць з флянгаў, як-бы бязудзельна адносячыся да наўкольнага. Сярэдні загоншчык, сочачы за наступленьнем флянговых і за рухам лісіцы, націскае з цэнтра, як-бы рэгулюючы ўсім рухаючымся мэханізмам у аб'езьдзе, г. зн. лісіцай і флянговымі загоншчыкамі. Загон павінен ісьці зусім бяз голасу і толькі тады, калі лісіца вось-вось прарывае кола, льга пусьціць у ход крык.

Калі паляваньне нагонам ня вам, так сказаць, па плячу і ўтвараць паляваньне гэта льга толькі зімою, дык паляваньне **скрадам** мае зусім супроцьлеглы характар. Паляваньне скрадам утвараецца ня толькі зімою, але і ўвосень. Ні людзей, ні каня, ні сабакі, ні сьцягоў ня трэба для гэтага паляваньня. Можна ўтвараць паляваньне скрадам і ўдвох, прычым убудва павінны ведаць гэта паляваньне і разумець адзін аднаго бяз слоў, інакш будуць мяшаць адзін аднаму. Вопратка на гэтым паляваньні павінна быць колеру хакі. У каго ёсьць бінокль, трэба ўзяць яго з сабой, ён дапаможа вашаму воку дакладна вызначыць прадмет на далёкай адлегласьці. Быць на месцы трэба на сьвітаньні, калі магчыма стане разглядзець сьлед. Ісьці трэба асьцярожна, увесь час зорка сачыць за ўсім, што відно на полі. Патрэбна часта прыпыняцца, не сьпяшаць, бо лісіца можа паказацца з-за прыгорка, хоць яна і ня была заўважана раней. Трэба імкнуцца прытрымлівацца пераходаў лісіцы: часта дзякуючы гэтаму, бяз скрадваньня лісіца прыходзіць насустрач.

Калі лісіца грабе мышэй, яна вельмі цікавіцца сваёю работаю і ў той момант мала ўдзяляе часу на бакі, гэтым павінен карыстацца паляўнічы, але лісіца ня так доўга займаецца на адным месцы, таму ня ўпускаючы моманту, трэба хутка абмеркаваць, які прыняць шлях да падыходу, ці ёсьць неабходныя заслоны і ці будзе цяга паветры ад лісіцы да вас. Вызначыўшы заслоны, трэба вызначыць адлегласьць паміж імі, бо можна памыліцца і папасьці да такой адзіночнай заслоны, ад якой прабег да наступнай вельмі вялікі і немагчымы, каб не заўважыла лісіца. Тут трэба ня траціць часу, імкнуцца хутчэй заняць яе пераход і цярпліва чакаць падыход, не расчароўвацца, калі лісіца раптам зьмяніла кірунак,—яна зноў вернецца, каб працягваць першапачатковы ход.

Усякае паляваньне добрае само па сабе, у кожным паляваньні ёсьць сваё асаблівае хараство, пераджыванне. Нельга не ўсхваліць паляваньне скрадам, дзе паляўнічы перажывае палкае хваляваньне ад сьцеражлівасьці быць заўважаным, праяўляе вялікую актыўнасьць, атрымоўвае ўменьне карыстацца заслонамі пры перабежках і прывыкае валодаць сабою, што дазваляе заўсёды павольна абмеркаваць створанае становішча. Практычная школа такая, можа быць, адслужыць вялікую службу ўсім і кожнаму, асабліва байцу-паляўнічаму, калі прыдзецца яму зьмяніць сваю двухстволку на трохлінейную вінтоўку. Памылкова думае той, хто паляваньне лічыць „толькі забавай, ды й забаваю пустою“.

**А. Ф. Лялін.**

# ЗА НОВЫ ВІД ЭКСПАРТА

Трусаводкалгасцэнтр утварыў пробу на жалатынавым дзяржаўным заводзе № 10 па вырабу жалатыну з трусовых адыходаў—лапак, вушэй, кішок. Вынік атрымаўся найлепшы. Выхад высокаякаснай спажывецкай жалатыны і фотажалатыны да 10 проц.; з кішок можна атрымаць высокаякасны багэтны клей.

Гэтыя віды экспарту маюць вялікі запыт на міжнародным рынку, але на вялікі жаль мы да гэтага часу ня маем дастатковае сыравіннае базы для вырабу гэтага віду тавараў.

У нас жалатына і клей выпрацоўваюцца з палявое касьці і адыходаў скурпрамысловасьці—мяздры, і, вядома, былі нізкай якасьці.

У сучасны момант становішча зьмяняецца. З разьвядзеньнем трусоў Трусаводкалгасцэнтр ужо ў 1933 годзе можа даць заводу № 10 400—450 тон сыравіны, з якога атрымаецца 35—40 тон жалатыны і клею.

Да канца другой пяцігодкі па вельмі малым падлікам можна атрымаць гэтай прадукцыі 220—250 тон.

Гэтай справай неабходна заняцца ўсім трусаводкалгасцэнтрам і асабліва КТФ.

Надыходзіць час масавага забою трусоў. Неабходна пры забоі ўсе лапкі, вушкі зьбіраць, дакладна складваць у кучкі па 50—60 кг і зімою замарожваць іх, а ў летні час, каб пазьбегнуць папсуцьцяў (загніваньня) неабходна расьцілаць тонкім пластом у цяні пад навесам, ці ў хляве і час-ад-часу пераварочваць. Замарожаныя кучкі лапак і скурак без усякіх папсуцьцяў можна грузіць у вагоны для адпраўкі на вытворчасьць, а сухія неабходна упакоўваць у рагожныя мяхі ці скрынкі пры адпраўцы.

Для збору лапак і вушэй можна выкарыстоўваць у калгасе дзіцячую працу, і пераапрацоўка гэтых адыходаў ня толькі пакрые ўсе выдаткі, але і прынясе істотны прыбытак калгасу.

**Р.**

# Агульнае палажэньне
## аб сэкцыі племяннога і кроўнага сабакаводзтва пры Белкахотсаюзе

§ 1. У мэтах захаваньня, палепшаньня і разьвіцьця і калектывізацыі кроўнага племяннога сабакаводзтва сярод каапэраваных паляўнічых пры Белкахотсаюзе арганізуецца сэкцыя племяннога сабакаводзтва.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня азначаных мэт, сэкцыя сабакаводзтва:

а) вядзе вывучэньне справы сабакаводзтва ў беларускім маштабе па сваёй сыстэме;

б) азнаямляе сваіх членаў і гурткі сабакаводаў пры калектывах аб правільных спосабах сабакаводзтва, дрэсыроўкі, натаскі і г. д. шляхам гутарак, нарад, лекцый, распаўсюджваньня друкаваных лістоў, якія адносяцца да жыцьця сабак і іх службы чалавеку;

в) высьвятляе лепшых вытворцаў-сабак у Саюзе, шляхам арганізацыі вывадак, выставак, палявых іспытаў, проб і арганізацый іспытных станцый. Камандыруе лепшых з іх на Ўсесаюзныя іспыты і выстаўкі. Рэгіструе іх у падсобных радаслоўных кнігах і вядзе ім вучот. Садзейнічае снабжэньню паляўнічых завадзкімі сабакамі і практыкуе кантрактацыю;

г) арганізуе на калектыўных пачатках вэтэрынарную дапамогу сабакам сваіх членаў, пітомнікі, музэі сабакаводзтва і інш. падобныя ўстановы;

д) утрымоўвае рабочых сабак для калектыўных паляваньняў і арганізуе калектыўнае ўтрыманьне сабак паасобных членаў;

е) арганізуе кадр егэраў па таске, нагонцы і ўтрыманьні сабак шляхам адчыненьня спэцыяльных курсаў, школ, выпрацоўвае тыповыя дагаворныя адносіны паміж егэрамі і ўласьнікамі сабак і г. д.;

ж) распрацоўвае спосабы заахвочваньня разьвіцьця сабакаводзтва шляхам выдачы дыплёмаў, прызоў, мэдаляў і грашовых узнагарод і г. д.;

з) высоўвае кандыдатаў у судзьдзі і стажораў.

### Склад, правы, абавязкі і сродкі сэкцыі

§ 3. Членамі сэкцыі могуць быць, як члены таварыстваў, так і члены іншых паляўнічых арганізацый.

Члены сэкцыі без уважлівых прычын ня могуць адмаўляцца ад ускладзеных на іх сэкцыяй даручэньняў па прадметах яе дзейнасьці.

§ 4. Члены сэкцыі, зацікаўленыя паасобнымі пародамі, могуць аб'яднацца ў падсэкцыі, дзейнасьць якіх рэгулюецца палажэньнем аб падсэкцыях.

§ 5. Усімі справамі сэкцыі кіруе бюро сэкцыі племяннога сабакаводзтва, якое складаецца з пяці чалавек, абраных агульным сходам сэкцыі і зацьверджаных праўленьнем Белкахотсаюза.

§ 6. Бюро ўзначальваецца членам праўленьня Белкахотсаюзу, нам. старшыні і сакратара і выдзяляе сталага прадстаўніка ў савет паляўнічай гаспадаркі.

§ 7. Пратаколы ўсіх пастаноў бюро сэкцыі прадстаўляюцца на чарговае пасяджэньне праўленьня Белкахотсаюза для зацьвярджэньня.

Увага: Пратаколы сэкцыі прадстаўляюцца ў праўленьне, але неразгледжаныя ім ня спыняюцца выкананьнем.

§ 8. Бюро сэкцыі кроўнага сабакаводзтва:

а) склікае чарговыя і тэрміновыя пасяджэньні сэкцыі;

б) праводзіць у жыцьцё ўсе пастановы агульнага сходу;

в) праводзіць арганізацыю выстаўкі, іспыты і пробы;

г) запрашае праз Саюзахотцэнтр экспэртаў — судзьдзяў і г. д.;

д) уносіць на бліжэйшае пасяджэньне агульнага сходу членаў сэкцыі прапановы аб выключэньні з ліку членаў сэк_ыі;

е) складае плян працы і каштарыс, увязваючы іх з рашэньнямі Праўленьня Белкахотсаюзу і дырэктывамі вышэйстаячых аб'яднаньняў.

§ 9. Сэкцыя племяннога сабакаводзтва існуе на пачатках самаакупаемасьці. Сродкі яе складаюцца з прыбыткаў ад выставак, іспытаў, рэгістрацыі сабак, продажы рознага роду блянкаў, як-та пасьведчаньняў заводчыкаў, дыплёмаў, продажы маладняку і рабочых сабак пітомнікаў і інш. паступленьні.

Увага: Сэкцыя складае штогодна прыбыткова-выдатковы каштарыс і прадстаўляе на зацьверджаньне Праўленьня Белкахотсаюзу з хадайніцтвам аб пакрыцьці дэфіцыта, калі такі мае месца.

§ 10. Усе паступаючыя сродкі сэкцыі захоўваюцца на бягучым рахунку Белкахотсаюзу і выдаткоўваюцца па распараджэньні старшыні бюро сэкцыі, згодна гадавых каштарысаў і ў асобных выпадках, згодна пастановы праўленьня Белкахотсаюзу. Сродкі сэкцыі выдаткоўваюцца толькі на патрэбы кроўнага сабакаводзтва. Тэхнічнае вядзеньне справаздачнасьці ўскладаецца на рабочы апарат Белкахотсаюзу.

Увага: Уся бягучая праца, як-та вядзеньне падсобных радаслоўных кніг і г. д. выконваецца сакратаром сэкцыі.

§ 11. Пасяджэньне бюро склікаецца па меры патрэбы старшынёй яго і лічыцца састаяўшымся пры наліччы трох членаў, у тым ліку і старшыні, ці яго намесьніка.

§ 12. Справы бюро вырашаюцца галасаваньнем простай большасьцю галасоў.

§ 13. Старшыня: а) старшынствуе ў бюро; б) у тых выпадках, калі бюро чаму-небудзь не сабярэцца, сам вырашае справы без адкладу; в) вырашае неабходныя каштарысныя выдаткі і г) мае агульнае кіраўніцтва і нагляд за выкананьнем пастаноў бюро.

§ 14. Намесьнік Старшыні замяняе старшыню ў выпадку яго адсутнасьці з усімі правамі і абавязкамі.

§ 15. Абавязкі сакратара бюро:

а) сабраць бюро; б) наглядаць за дакладным выкананьнем усіх унутраных распарадкаў сэкцыі і за выкананьнем камісіямі і супрацоўнікамі сэкцыі прынятых на сябе абавязкаў; в) складаць пры садзейнічаньні членаў бюро плян прац і каштарыс і гадавую справаздачу аб дзейнасьці сэкцыі; г) складаць расклад пасяджэньняў бюро, вучот членаў сэкцыі і

вучот гурткоў сабакаводаў ці калектываў" таварыства; д) падрыхтоўваць усе справы да пасяджэньня бюро і е) весьці бягучую працу бюро і радаслоўную кнігу.

§ 16. Абавязкі членаў бюро: а) удзельнічаньне ў пасяджэньні бюро; б) выконваць ускладзеныя на іх як паасобныя даручэньні, так і сталыя галіны спраў.

§ 17. Усе справы сэкцыі рэвізуюцца рэвізійнай камісіяй, якая рэвізуе справы Белкахотсаюзу.

### Агульныя сходы сэкцыі

§ 18. Агульныя сходы сэкцыі зьбіраюцца не радзей 4-х раз у год. Час чарговых пасяджэньняў устанаўліваецца бюро сэкцыі.

Увага: На другаразовым пасяджэньні разглядаюцца толькі тыя пытаньні, якія значыліся ў першай абвестцы.

§ 19. Чарговыя пасяджэньні сэкцыі зьбіраюцца для:

а) заслухоўваньня і зацьверджаньня справаздачных дакладаў бюро аб праробленай імі працы;

б) разгляду прапаноў і заданьняў на наступны пэрыяд;

в) высоўваньня стажораў і кандыдатаў у судзьдзі, згодна існуючых правіл;

г) зацьверджаньня тэрмінаў выставак, іспытаў, спроб і садак, намечаных бюро;

д) разгляду прац па кінолёгіі;

е) стварэньня камісіі па пытаньнях, якія патрабуюць спэцыяльнага вывучэньня і выдзяленьня падсэкцыі;

ж) разгляду прапаноў бюро аб выключэньні членаў сэкцыі, для чаго патрабуецца большасьць (2/3) агульнай колькасьці членаў сэкцыі.

§ 20. Справы на агульных сходах рашаюцца простай большасьцю галасоў, за выключэньнем пункта „ж“ папярэдняга параграфа.

§ 21. Зьмена ці дадатак да сучаснага палажэньня вытвараецца пасьля разгляду агульнага сходу сэкцыі і па зацьверджаньні праўленьнем Белкахотсаюзу.

§ 22. Ліквідацыя сэкцыі можа вытварацца па пастанове праўленьня Белкахотсаюзу і па рашэньні агульнага сходу сэкцыі, пры ўмове падачы галасоў за ліквідацыю ня менш 2/3 агульнага ліку сэкцыі.

**Зацьверджана на пасяджэньні прэзыдыуму праўленьня Белкахотсаюзу ад 5 лістапада 1932 году, пратакол № 18.**

## Як палепшыць справу буйнай сабакагадоўлі па БССР

*(У парадку абгаварэньня).*

Зараз у сувязі з павялічэньнем ліку паляўнічых і заданьняў па загатоўцы пушна-мехсыравіны і мясадзічы—павялічваецца і запыт на кроўную працоўную паляўнічую сабаку і гэты запыт здавальняецца на вельмі нязначны процант. Весьці сабакагадоўлю далей так, як вялася яна раней—немагчыма. Гэтая справа не чакае, яе трэба разьвязаць у тэрміновым парадку.

Па маёй думцы шляхі далейшага вядзеньня сабакагадоўлі павінны быць наступныя:

1. Арганізацыя пры Белкахотсаюзе і райтаварыствах паляўнічых пітомнікаў буйных сабак, але ня ў цэнтры, а ў найбольш далёка-адлеглых і багатых дзічынаю цэнтрах, у мясцох пасьпяховага складаньня ўласнай кармовай базы і забесьпячэньня племяннога матар'ялу дастатковай колькасьцю ўгодзьдзяў для нагонкі і натаскі.

2. Арганізацыя такіж-жа пітомнікаў пры паляўнічых брыгадах ці гурткоў вытворцаў на калектыўных пачатках і пры ўмовах выпрацоўкі добрых, як па крыві, а таксама і па рабоце сабак-вытворцаў.

3. Трэба ўзьняць хадайніцтва, каб праўленьні калгасаў удзялялі больш увагі справе сабакагадоўлі і аказвалі падтрымку паляўнічым — калгасьнікам, шляхам прадстаўленьня ў лік платы за працадні корму для паляўнічых сабак, разглядаючы іх як сродкі здабычы неабходнай нам для экспарту пушніны.

4. Трэба райтаварыствам паклапаціцца арганізацыяй на калектыўных падставах кармовай базы для забесьпячэньня лепшых паляўнічых сабак, асабліва адзначаных племяннымі, кормам, шляхам засеву аўсом належнай плошчы зямлі.

5. Трэба пры праўленьнях райтаварыстваў, паляўнічых брыгадах скласьці сэкцыі кроўнай сабакагадоўлі ці групы садзейнічаньня гэтай справы для нагляду і кіраўніцтва справай сабакагадоўлі.

6. Трэба па магчымасьці ўсходу праводзіць выстаўкі і палявыя спробы паляўнічых сабак з мэтай выяўленьня лепшых вытворцаў як па пародзе, а таксама і па палявой працы.

7. Трэба скарыстаць маючыяся ў нас касы ўзаемадапамогі з мэтай аказаньня дапамогі на набыцьцё племяннога матар'ялу, як брыгадамі, так і асобнымі паляўнічымі, шляхам водпуску неабходных пазык.

8. Белкахотсаюзу, райтаварыствам і брыгадам набываць добрых вытворцаў і раздаваць іх на ўмовах кантрактацыі (шляхам звароту належнай колькасьці шчанюкоў ад сукі ці ад вязкі кобеля) прычым усе вязкі павінны абавязкова весьціся пад кіраўніцтвам сэкцыі ці групы садзейнічаньня буйнай сабакагадоўлі, на чале якіх павінны знаходзіцца людзі, якія добра ведаюць гэтую справу.

9. Пры Белкахотсаюзе і райтаварыствах павінны весьціся радаслоўныя кнігі племянных сабак, пры чым кніга Белкахотсаюзу павінна весьціся на такіх-жа падставах, як б. Маскоўская, а зараз Усесаюзная радаслоўная кніга сабак.

Вось тыя мае практычныя меркаваньні, якія неабходна абмеркаваць на старонках нашай паляўнічай часопісі, дапоўніць іх новымі прапановамі і потым правесьці ў жыцьцё лепшыя і найбольш падыходзячыя мерапрыемствы.

Справа сабакагадоўлі з кожным днём ідзе ўніз і калі мы своечасова не падтрымаем яе, то мы хутка застанемся зусім без паляўнічых сабак,—нашых галоўных дапаможнікаў у здабычы зьвера і птушкі.

**Стары сабакавод.**

# Ш К А Л А

## грашовых узносаў па Беларускаму Прамысловаму Саюзу Паляўнічых і зьверагадоўчай каапэрацыі на 1933 год

| Катэгорыя | Група | Назва групы | Пай | | Уступн. | | Мэтавы на сац. буд. | | Бланк-білет | | У касу ўзаемадапамогі: Уступны ўзнос | | У касу ўзаемадапамогі: Сяброўскі ўзнос | | Дзяржпошліна | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| 1 | а | Чырвонаармейцы . . . . . . . | — | — | — | 50 | — | — | — | 40 | — | 25 | — | 50 | — | — | 1 | 65 |
| 1 | б | Дэмабіл. чырвон. на працягу году пасьля дэмаб. . . . . . . . | — | 75 | — | 50 | — | — | — | 40 | — | 25 | — | 50 | — | — | 2 | 40 |
| 2 | а | Рабоч., служ. і саматужн. аб'ядн у арцель з акл. пэнсіі да 50 руб. у м-ц, партызан. і чырвонаэнам. і чырвонагвардз. . . . . . . . | 7 | — | — | 50 | 3 | 50 | — | 40 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 13 | 15 |
| 2 | б | Сяляне—члены калгасу, камуны, якія да ўступ. у калгас, камуну вызвал. на працягу 2-х год ад с.-г. падат. знаходж. у к-се. . . . . . . | 7 | — | — | 50 | 3 | 50 | — | 40 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 13 | 15 |
| 2 | в | Студэнты і вучні, якія атрымліваюць стыпэндыю . . . . . . . | 7 | — | — | 50 | 3 | 50 | — | 40 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 13 | 15 |
| 2 | г | Лясная варта, чыг. варта і міліцыя . | 7 | — | — | 50 | 3 | 50 | — | 40 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 13 | 15 |
| | д | Інваліды вайны і прац. атрымл. пэнсію ад ворганаў сацзабясьпекі . . | 7 | — | — | 50 | 3 | 50 | — | 40 | — | 25 | — | 50 | — | — | 12 | 15 |
| 3 | а | Рабочыя, служачыя, самат. аб'яднан. у арцелі з пэнсіяй ад 51 да 80 р. . | 15 | — | 1 | — | 7 | 50 | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 26 | 15 |
| | б | Сяляне—члены калгасу і камун . . | 15 | — | 1 | — | 7 | 50 | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 26 | 15 |
| | в | Сяляне-аднаасобнікі, якія аслабанены ад с.-г. падатку. . . . . . . | 15 | — | 1 | — | 7 | 50 | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 26 | 15 |
| | г | Асобы камскладу Чырв. арміі, міліцыі, ДПУ, чыг. варта і лясная адміністрац., якая атрымл. пэнсію ад 51 да 80 р. у месяц . . . . . | 15 | — | 1 | — | 7 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | — | — | — | 25 | 15 |
| 4 | а | Рабочыя, служачыя, самат. аб'ядн. у арцелі атрымл. пэнсію ад 81 р. да 125 р.. . . . . . . . . | 21 | — | 1 | — | 10 | 50 | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 35 | 15 |
| 4 | б | Асобы камскладу Чырвон. арміі, міліцыі, ДПУ, чыг. варта і лясная адміністр. атрымл. пэнсію ад 81 да 125 р. у месяц . . . . . . . | 21 | — | 1 | — | 10 | 50 | — | 40 | — | 25 | 1 | — | — | — | 34 | 15 |
| 5 | а | Рабочыя, служ., самат. аб'ядн. у арцелі атрымл. ад 126 да 175 р. у м-ц | 28 | — | 2 | — | 14 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 46 | 65 |
| | б | Сяляне-аднаасобнікі, якія плацяць с.-г. падатак да 20 р. . . . . . | 28 | — | 2 | — | 14 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 46 | 65 |
| | в | Саматужнікі-адзіночкі . . . . . | 28 | — | 2 | — | 14 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 46 | 65 |
| | г | Асобы камскладу Чырвон. арміі, міліцыі, ДПУ, чыг. варта і лясная адміністр. атрымл. пэнсію ад 126 да 175 р. у м-ц. . . . . . . . | 28 | — | 2 | — | 14 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | — | — | — | 45 | 65 |
| 6 | а | Рабочыя, служач. і саматужн. аб'ядн. у арцелі атрымл. ад 176 да 225 р. у месяц . . . . . . . . . | 42 | — | 3 | — | 21 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 69 | 15 |
| | б | Сяляне-аднаасобн., якія плацяць с.-г. падатку ад 21 да 60 руб.. . . . | 42 | — | 3 | — | 21 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 69 | 15 |
| | в | Асобы камскладу Чырвон. арміі, міліцыі, ДПУ, чыг. варта і лясн. адмін. атрымл. ад 176 да 225 р. у м-ц. . | 42 | — | 3 | — | 21 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | — | — | 68 | 15 |
| 7 | а | Рабочыя, служачыя і самат. аб'ядн. у арцелі, атрымл. ад 226 да 260 руб. у месяц . . . . . . . . . | 56 | — | 4 | — | 28 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 91 | 15 |
| 7 | б | Сяляне-аднаасобн., якія плацяць с.-г. падатку ад 61 р. і звыш . . . . | 56 | — | 4 | — | 28 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 91 | 15 |
| 7 | в | Асобы каманд. складу Чырв. арміі, міліцыі, ДПУ, чыг. адм. атрымл. ад 226 да 260 р. у м-ц . . . . . | 56 | — | 4 | — | 28 | — | — | 40 | — | 25 | 1 | 50 | — | — | 90 | 15 |
| 8 | а | Рабоч., служ. і саматужн., аб'яднан. у арцелі, атрымл. ад 261 да 400 р. у месяц . . . . . . . . . | 70 | — | 5 | — | 35 | — | — | 40 | — | 25 | 2 | — | 1 | — | 113 | 65 |
| 9 | а | Рабоч., служ. і саматужн., аб'ядн. у арцелі, атрымл. ад 401 р. і звыш . | 98 | — | 7 | — | 49 | — | — | 40 | — | 25 | 3 | — | 1 | — | 158 | 65 |

У В А Г А: 1) Уноў уступаючым пайнікам растэрміноўка дазваляецца на 6 месяцаў, пры ўмовах уплаты ня менш 50 проц. паю. Старыя пайнікі пай уносяць цалкам, згодна гэтай шкалы.

**БЕЛКАХОТСАЮЗ.**

Рэдкалегія: Волдынь, Вільдфлуш, Кутылоўскі, і проф. Федзюшын.

Адказны рэдактар: А. Вільдфлуш

Цана 30 кап.

# ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1933 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

**САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ БРЫГАДЫ**

Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопіс.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічая справа, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопіс будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| на 1 год . . | 4 р. 80 к. |
| на паўгода . | 2 р. 40 к. |
| на 3 мес. . . | 1 р. 20 к. |

На меншы тэрмін падпіска не прымаецца.



Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68. Выдавецтва „Калгаснік Беларусі“.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 3079. 12.570 экз. Гарліт № 1336.